Гродна
№8 (466),
9 красавіка 2017

www.slowo.grodnensis.by

# Слова Жыцця

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



# Вербы – святочны атрыбут, зроблены з душой





**У ПАЛЬМОВУЮ НЯДЗЕЛЮ ВЕРНІКІ ЗБІРАЮЦЦА НА ЎСПАМІН ТРЫУМФАЛЬНАГА ЎВАХОДУ ХРЫСТА Ў ІЕРУСАЛІМ І, ЗГОДНА З ТРАДЫЦЫЯЙ, ІДУЦЬ ВУЛІЧНАЙ ПРАЦЭСІЯЙ. ВЕРБНІЦА ДЛЯ КАТОЛІКАЎ – АДНА З НАЙВАЖНЕЙШЫХ І НАЙБОЛЬШ ЛЮБІМЫХ УРАЧЫСТАСЦЕЙ, ЯКАЯ НЕ ТОЛЬКІ АДКРЫВАЕ ВЫКЛЮЧНЫ ЧАС ВЯЛІКАГА ТЫДНЯ, АЛЕ ТАКСАМА АТАЯСАМЛІВАЕЦЦА З ДУХОЎНЫМ АДРАДЖЭННЕМ І, ПЕРШ ЗА ЎСЁ, З ПАЛЬМАМІ – СІМВАЛАМ УВАСКРАСЕННЯ І НЕЎМІРУЧАСЦІ ЧАЛАВЕЧАЙ ДУШЫ.**

● працяг на с. 3

## Каляндар падзей

***13 красавіка***
*Вялікі чацвер.*
*26-я гадавіна заснавання Гродзенскай дыяцэзіі і прызначэння біскупа Аляксандра Кашкевіча.*

***14 красавіка***
*Вялікая пятніца. Абавязвае сціслы пост.*

***15 красавіка***
*Вялікая субота. У святынях бласлаўляюцца стравы на велікодны стол.*

***16 красавіка***
*Нядзеля Уваскрасення Пана.*

***23 красавіка***
*Нядзеля Божай Міласэрнасці.*

## Ружанцовыя інтэнцыі

***Красавік***
*Аб святарскіх, манаскіх і місійных пакліканнях з нашай дыяцэзіі.*
*Аб развіцці апостальска-малітоўнай справы пакліканняў.*
*Аб дары плённай падрыхтоўкі да дыяцэзіяльнага сінода.*

## Праграмы каталіцкай рэдакцыі

***"Голас Евангелля"***
*Разважанні над Божым словам.*
*Выходзіць на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё кожную нядзелю ў 8.00 у Гродне на 96,9 FM, у Свіслачы на 100.8 FM.*

***"Сімвал веры"***
*Тэлеперадача аб рэлігійным жыцці Гродзенскай дыяцэзіі.*
*Выходзіць пры супрацоўніцтве Каталіцкай тэлестудыі Гродзенскай дыяцэзіі і дзяржаўнага тэлебачання на тэлеканале "Беларусь–4".*
***Чарговы выпуск у чэрвені.***

***Навіны з Ватыкана па-беларуску***
*Радыёвяшчанне з Апостальскай Сталіцы.*
*Штодзённа ў 22.10 на 98,1 FM – у Гродне, Ваўкавыску, Шчучыне, Лідзе, Мастах і побач з гэтымі гарадамі; на 99,2 FM – у Брэсце і побач з ім; у 20.00 на кароткіх хвалях 6185 і 11715 кГц.; у 20.00 і 6.20 на спадарожніку "Eutelsat Hotbird 13" на канале "Radio Vaticana Telepace". Кожную нядзелю ў 8.55 на хвалях Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё і на Канале "Культура" Беларускага радыё.*
*У інтэрнэце на старонцы vatican.by.*

**"На вяршыні прыніжэння Езус дарue нам". Папа Францішак**




**ПАЛЬМОВАЯ НЯДЗЕЛЯ**
**Мц 21, 1–11**

Калі наблізіліся да Іерусаліма і прыйшлі ў Бэтфагію да гары Аліўнай, тады Езус паслаў двух вучняў, кажучы ім: “Ідзіце ў вёску, што перад вамі. Там адразу знойдзеце прывязаную асліцу і асляня з ёю. Адвяжыце і прывядзіце да Мяне. Калі вам хто скажа што-небудзь, адкажыце, што яны патрэбны Пану; і зараз жа адашле іх”. І сталася гэта, каб збылося сказанае прарокам, які кажа: “Скажыце дачцы Сіёна: Вось Кароль твой ідзе да цябе; лагодны, седзячы на асліцы і на асляняці, сыне пад’ярэмнай”.

Вучні пайшлі і зрабілі так, як загадаў ім Езус. Прывялі асліцу і асляня і паклалі на іх свае адзенне, і Ён сеў на яго. І мноства людзей слала свае адзенне на дарозе, а іншыя зразалі галінкі з дрэваў і слалі на дарозе. А натоўпы, якія ішлі спераду і следам за Ім, усклікалі: “Гасанна Сыну Давіда! Бласлаўлёны той, хто прыходзіць у імя Пана! Гасанна на вышынях!”. І калі Ён увайшоў у Іерусалім, узрушыўся ўвесь горад, і пыталіся: “Хто гэта?”. А народ адказваў: “Гэта прарок Езус з Назарэта галілейскага”.

## НАША ПАЛЬМОВАЯ НЯДЗЕЛЯ

Сёння – праз 2 тысячы гадоў – чарговае пакаленне тых, хто вітае Хрыста, дае сябе захапіць атмасферы Пальмовай нядзелі. Пераймайма тых, хто выйшаў насустрач Збаўцы. Давайце настолькі, наколькі можам, распастромся на зямлі ў пакоры і шчырасці сэрца, каб прыняць Слова, што набліжаецца, і сустрэцца з Богам. Затым сабой, а не тунікамі і мёртвымі галінкамі, якія цешаць вока толькі на кароткі час, усцелем дарогу Хрысту. Адзенемся ў Яго ласку – у Яго самога.

У Эўхарыстыі Езус выходзіць нам насустрач, а мы пілігрымуем да Яго. Разам з Панам уваходзім у святы тыдзень Яго прыніжэння і хвалы. Неабходна, каб Хрыстос ужо цяпер панаваў на зямлі; каб Бог стаў усім ва ўсіх; каб ніякая людская дзейнасць не была выключана з-пад Яго ўлады – ні сам чалавек, ні тое, што побач з ім.

**НЯДЗЕЛЯ УВАСКРАСЕННЯ ПАНА**
**Ян 20, 1–9**

У першы дзень тыдня Марыя Магдалена прыйшла да магілы раніцай, калі было яшчэ цёмна, і ўбачыла, што камень адсунуты ад магілы. І пабегла, і прыбыла да Сымона Пятра і да другога вучня, якога любіў Езус, і сказала ім: “Забралі Пана з магілы, і не ведаем, дзе паклалі Яго”. Тады выйшаў Пётр і другі вучань, і пайшлі да магілы. Пабеглі абодва разам. І другі вучань пабег наперадзе хутчэй за Пятра і прыбыў да магілы першы. Заглянуўшы, убачыў, што ляжаць палотны, аднак не ўвайшоў. Тады прыйшоў за ім Сымон Пётр і ўвайшоў у магілу, і ўбачыў палотны, якія там ляжалі, і хусту, якая была на галаве Ягонай, не з палотнамі яна ляжала, а асобна, скручаная на іншым месцы. Тады ўвайшоў і той другі вучань, што прыбег першы да магілы, і ўбачыў, і паверыў. Бо яны яшчэ не ведалі Пісання, што трэба было Яму ўваскрэснуць з мёртвых.

## НЯМА ЎВАСКРАСЕННЯ БЕЗ ПАПЯРЭДНЯЙ СМЕРЦІ

Уваскрасенне Хрыста з’яўляецца для нас – веручых – аксіёмай, якая не патрабуе доказу. Гэта аснова нашай веры, таму што, як сцвярджае св. Павел, “калі ж няма ўваскрашэння памерлых, то і Хрыстос не ўваскрос! А калі Хрыстос не ўваскрос, то марнае і прапаведаванне нашае, і вера ваша марная” (1 Кар 15, 13–14).

Аднак не ўсе ўсведамляюць іншы, нашмат больш адчувальны факт, што няма ўваскрасення без папярэдняй смерці. Кожны чалавек павінен калісьці памерці, але гаворка аб іншай смерці і ўваскрасенні. Мы павінны памерці сабой, сваімі дробнымі і буйнымі грахамі, слабасцямі, эгаізмам, жаданнем валодання, уладкаваннем зручнага месца на гэтай зямлі.

Праз сённяшнюю ўрачыстасць Хрыстос заклікае нас да нястомнага працэсу ўваскрасення. Варта асэнсаваць: НЯМА ЎВАСКРАСЕННЯ БЕЗ ПАПЯРЭДНЯЙ СМЕРЦІ! А Ты ўжо памёр сабой?

*Кс. Юрый Бяганскі*



**Слова рэдактара**
*Кс. Юрый Марціновіч*

# Глыбей увойдзем у таямніцу Пасхі

*Пальмовая нядзеля з’яўляецца пачаткам Вялікага тыдня і прадвесцем надыходзячых Велікодных свят. Перад намі выключны час, глыбокае перажыванне якога дазволіць адкрыць сэнс жыцця, адшукаць надзею і веру. Аднак калі не будзем шчыра і з поўнай самааддачай перажываць Вялікі тыдзень, Пасха не стане для нас часам пераходу ад смерці да жыцця. Не здолеем зразумець бязмежную любоў Бога да кожнага чалавека.*

Літургія Вялікага тыдня пэўным чынам складае дарогу. Цяжка добра перажыць падзею, што знаходзіцца ў канцы шляху, калі папярэдне не прыкласці высілкі ў дарозе. Таму Касцёл заахвочвае вернікаў актыўна далучацца да перажывання гэтага часу ў духу веры, адарацыі і любові да Езуса.

Асаблівыя дні Вялікага тыдня дазваляюць спазнаць глыбокі змест, што з’яўляецца фундаментам хрысціянскай веры. У гэты час Божы Сын здзейсніў непаўторны ўчынак у гісторыі чалавецтва: збавіў кожнага з нас. Нядзеля Уваскрасення Пана з’яўляецца днём перамогі жыцця над смерцю, любові над нянавісцю, праўды над падманам. Пераможца – Хрыстос, зняважаны і адрынуты, несправядліва абвінавачаны і ўкрыжаваны, забіты і ўваскрослы.

Чалавек, які штодзённа атрымлівае падарункі, перастае цаніць іх каштоўнасць. Асоба, якая з дня ў дзень цудоўна бавіць час, хутка перастае разумець, што значыць святкаваць. Каб адчуць клімат надыходзячай урачыстасці ва ўсёй паўнаце, трэба актывізавацца. Варта знайсці час, каб прыняць удзел у Пасхальным Трыдууме. Можа, даўжэй застацца ў касцёле, трываючы ў цішыні перад Найсвяцейшым Сакрамантам. Можа, зрабіць першы крок і працягнуць далонь паяднання. Каб спазнаць паўнату радасці Велікодных свят, прыдасца трохі самаўтаймавання і большая порцыя малітвы.

Трэба памятаць, што ўдзельнічаць у рэзурэкцыйнай працэсіі без папярэдняга ўдзелу ў літургіі Вялікага тыдня – гэта нібы прыйсці ў кіно на канец сеанса і ўбачыць адно шчаслівы фінал фільма. Але ж толькі перажыванне цэлай фабулы разам з галоўнымі героямі дае магчымасць зразумець усю гісторыю і адчуць сапраўдную радасць ад яе хэпі-энду.

**Дарагія Чытачы!**

У гэты асаблівы час усё гаворыць нам аб міласэрнасці. Можам упэўніцца, наколькі бязмежная любоў Бога. Св. Аўгусцін калісьці сказаў, што гэта любоў, якая “пастаянна рухаецца ажно да канца”. Бог сапраўды аддае нам усяго сябе, не шкадуючы ні кроплі. Дазволім жа ахапіць сябе Міласэрнасці, якая выходзіць насустрач. Не дапусцім, каб смерць Збаўцы была дарэмнай. Не будзем уцякаць ад любові. Не станем адварочвацца ад Езуса, саромецца Яго. Толькі з Ім мы выйграем усё сваё жыццё. Няхай падтрымкай для нас стануць словы Хрыста: “Будзьце адважнымі: Я перамог свет” (Ян 16, 33).

З нагоды Вялікадня жадаю Вам шчодрых дароў ад уваскрослага Езуса, а ў першую чаргу – Божага супакою ў сэрцы і сапраўднай радасці. Бласлаўлёных свят!




# Узнагароджваем Тваё Сэрца, Марыя!

Падчас фацімскіх аб’яўленняў Маці Божая абвясціла Луцыі, што Хрыстос прагне, каб Яе больш ведалі і любілі: ***“Езус хоча выкарыстаць цябе, каб увесці на свеце набажэнства да Майго Беззаганнага Сэрца. Тым, хто прыме яго, Я абяцаю збаўленне. Гэтыя душы, любімыя Богам, як кветкі пастаўлю для аздобы Яго трона”.***

Згодна з прадказаннем, Маці Божая зноў аб’явілася Луцыі 10 снежня 1925 года ў Пантэведра (Іспанія), ужо пасля смерці Францішка і Гіяцынты. На гэты раз Нябесная Валадарка трымала на руках Дзіцятка Езус. Марыя звярнула ўвагу на стан свайго Беззаганнага Сэрца: ***“Дачка Мая, паглядзі, Маё Сэрца пранізана цернямі, якімі яго няспынна раняць людзі праз блюзнерства і няўдзячнасць. Прынамсі ты імкніся прыносіць Мне радасць і абвясці ад Майго імя, што ў гадзіну смерці прыбуду з ласкамі, неабходнымі для збаўлення ўсіх, хто на працягу 5-ці месяцаў у першыя суботы паспавядаецца, прыме св. Камунію, памоліцца 1 частку Ружанца і 15 хвілін у роздуме над ружанцовымі таямніцамі будзе спадарожнічаць Мне ў інтэнцыі ўзнагароджання”.***

Чаму менавіта 5 субот для ўзнагароджання? На гэтае пытанне Луцыя атрымала адказ у капліцы ноччу з 29 на 30 мая 1930 года. Езус сказаў ёй тады: ***“Дачка Мая, ёсць 5 відаў зняваг і блюзнерстваў, якія абражаюць Беззаганнае Сэрца Марыі: непрыняцце Беззаганнага Зачацця, Яе Дзявоцтва, Божага Мацярынства (калі Яе прызнаюць выключна як Маці чалавека), адкрытае і публічнае сеянне ў сэрцах дзяцей абыякавасці, пагарды і нават нянавісці да Беззаганнай Маці, зневажанне Марыі непасрэдна ў Яе святых абразах”.***

## УМОВЫ НАБАЖЭНСТВА ПЕРШЫХ СУБОТ МЕСЯЦА:

**Споведзь у інтэнцыі ўзнагароджання**

Перад сакрамантам пакаяння можна памаліцца наступным чынам: ***“Божа, я прагну цяпер прыступіць да святога сакраманту паяднання, каб атрымаць прабачэнне за ўчыненыя грахі, асабліва за тыя, якімі свядома ці несвядома прычыніў боль Беззаганнаму Сэрцу Марыі. Няхай гэтая споведзь выпрасіць Тваю міласэрнасць для мяне, а таксама для бедных грэшнікаў, каб Беззаганнае Сэрца Марыі затрыумфавала сярод нас”.*** Падчас адпушчэння грахоў прамовіць акт жалю: ***“Божа, будзь міласцівы да мяне грэшнага, асабліва за мае грахі супраць Беззаганнага Сэрца Марыі”.***

Неабавязкова прыступаць да сакраманту пакаяння менавіта ў першую суботу месяца, калі душа знаходзіцца ў стане асвячаючай ласкі.

**Св. Камунія ўзнагароджання**

Прыняцце Цела Пана з’яўляецца асноўным элементам набажэнства першых субот. Яго трэба прымаць у інтэнцыі ўзнагароды за грахі і зняважэнні Беззаганнага Сэрца Марыі. Намер належыць узбудзіць у сваім сэрцы перад тым, як прыступіць да Камуніі.

**Ружанец узнагароджання**

На пачатку ружанцовай малітвы перад Найсвяцейшым Сакрамантам рэкамендуецца памаліцца словамі Анёла з Фацімы да Найсвяцейшай Тройцы: ***“Найсвяцейшая Тройца, Ойча, Сыне і Дух Святы. У глыбокай пакорнасці я аддаю Табе чэсць і ахвярую Найсвяцейшае Цела і Кроў, Душу і Боскасць Езуса Хрыста, прысутнага на алтарах усяго свету, як узнагароду за зняваг, святатацтва і абыякавасць, якімі Яго абражаюць. Праз бясконцыя заслугі Яго Найсвяцейшага Сэрца і праз заступніцтва Беззаганнага Сэрца Марыі прашу Цябе аб ласцы навяртання бедных грэшнікаў”.*** Пасля кожнага дзясятка адгаворваем малітву, якую перадала Маці Божая ў Фаціме ў ліпені 1917 года: ***“О, мой Езу, прабач нам грахі нашыя, захавай нас ад агню пякельнага, прывядзі ўсе душы да неба і дапамажы асабліва тым, каму найбольш неабходна Твая міласэрнасць”.***

**15-хвіліннае разважанне над зместам таямніц Ружанца ў інтэнцыі ўзнагароджання**

Недастаткова толькі прачытаць ці паслухаць разважанні, падрыхтаваныя іншай асобай. Асабістае перажыванне павінна стаць актам духоўнай еднасці з Беззаганнай Маці. Можна разважаць 1 выбраную таямніцу ці ўсе па чарзе, разважаць аб падзеях з жыцця Езуса і Марыі. Гэта павінна фарміраваць сэрцы, прыпадабняць іх да Сэрца Маці Божай ды вучыць глядзець на свет і розныя падзеі нашага жыцця Яе вачамі.

Ад настойлівасці ў рэалізацыі гэтага набажэнства залежыць супакой на зямлі, у краіне, сям’і, душы. Будзьма разам пры Маці Божай у першыя суботы месяца, каб выпрошваць міласэрнасць для грэшнікаў і ўсяго свету. Няхай Беззаганнае Сэрца Марыі затрыумфуе!

*Кс. Юрый Марціновіч*

# Вербы – святочны атрыбут, зроблены з душой

● працяг са с. 1

## МАЙСТРЫХІ ДАМІНІКАЎНЫ

Менавіта так па-сяброўску клічуць 4-ох сясцёр – Дамініку, Ванду, Дануту і Чаславу (у дзявоцтве Сарасек), якія з'яўляюцца носьбітамі рамяства стварэння велікодных вербаў. Сёння без іх пальм – сапраўднага твора мастацтва – не абыходзіцца ніводная Вербная нядзеля ў Гродне.

***"Творчы фундамент у нас, напэўна, заклалі бацькі, якія былі добрымі рамеснікамі,*** – гаворыць Дамініка Дамінікаўна. – ***Тата мог пашыць абутак, скаваць нешта з жалеза, а мама вельмі добра шыла і ткала дываны. Бацькам даводзілася цяжка працаваць, бо мелі вялікую гаспадарку. Ды і нас, дзяцей, трэба было выхоўваць. Але, нягледзячы на гэта, мама знаходзіла час, каб пасадзіць каля дома кветкі. Мы разам за імі даглядалі. Адсюль, хіба, і пачалося наша захапленне фларыстыкай".***

Дамініка Дамінікаўна ўзгадвае, што раней галінкі вярбы проста перавязвалі ніткамі. Пазней пачалі ўпрыгожваць барвінкам, аспарагусам, ядлоўцам. Затым у якасці дэкора сталі выкарыстоўваць папяровыя кветкі. ***"Яшчэ ў савецкія часы я пачала ствараць самыя разнастайныя варыянты ўпрыгожання вярбовых галінак. Але гэта быў перыяд атэізму, калі праследавалі за веру. Таму нельга было выйсці на вуліцу і паказаць шырокаму колу людзей велікодныя пальмы, аздобленыя каляровымі засушанымі кветкамі і травамі,*** – дзеліцца ўспамінамі жанчына. – ***Калі пачалася «адліга», прыгожыя вербы паступова здабылі папулярнасць. Да цікавай справы далучыліся мае сёстры. Кожная стала прапаноўваць свае варыянты ўпрыгожання, прыдумляць цікавыя элементы. Дзякуючы фантазіі і творчаму падыходу велікодныя пальмы зрабіліся нашай візітоўкай. З тых часоў мы не страцілі энтузіязму, з якім узяліся некалі за справу. Наадварот, з гадамі захапіліся яшчэ больш".***

## КАБ АЗДОБІЦЬ ВЯРБУ, ТРЭБА ПРАЦАВАЦЬ УВЕСЬ ГОД

Створаныя велікодныя вербы па сваёй форме нагадваюць лісце паўднёвай пальмы, якім высцілалі шлях Хрыста падчас Яго ўваходу ў Іерусалім. Прамы ствол з пышнай верхавінай з'яўляецца сімвалам узыходжання і адраджэння, а праз рознакаляровасць перадаецца сутнасць райскіх вобразаў.

***"Нашы вербы часта параўноўваюць з «віленскімі», якія папулярны ў Літве і Польшчы,*** – адзначае Дамініка Дамінікаўна. – ***Але ў іх ёсць прынцыповае адрозненне: «віленскія» нагадваюць сапраўдныя букеты, «гродзенскія» – не аб'ёмныя. Маюць плоскую форму, якая прадыктавана традыцыяй захоўваць вербы за абразамі".***

Майстрыха падкрэслівае, што неад'емны элемент "гродзенскай" пальмы – гэта 3 галінкі вярбы вышынёй каля 50-ці см, якія сімвалізуюць Святую Тройцу. Менавіта яны з'яўляюцца асновай, якая пазней упрыгожваецца. ***"Кампазіцыі могуць быць самымі рознымі, усё залежыць ад фантазіі і настрою,*** – гаворыць Дамініка Дамінікаўна. – ***Я ўпрыгожваю вярбу сухавейкамі, жытнімі і аўсянымі каласкамі, барвінкам, ядлоўцам, галінкамі самшыту, цімафееўкай, мятлікам, рознымі зёлкамі і травамі, якія збіраю на лугах, палях, у лесе. Таксама выкарыстоўваю кукурузнае лісце, з якога раблю рознакаляровыя кветкі".***



*За сваё рамяства Дамініка Дамінікаўна ў 2013 годзе была ўдастоена звання "Народны майстар Беларусі"*

Жанчына распавядае, што каб упрыгожыць вярбу, трэба быць не толькі добрым фларыстам, але батанікам і нават хімікам: ***"На сваім лецішчы я адмыслова вырошчваю сухавейкі. Пасля з дапамогай анілінавых фарбавальнікаў надаю ім розныя колеры: чырвоны, жоўты, аранжавы, фіялетавы, зялёны. Ды і з тымі раслінамі, каторыя збіраю ў дзікай прыродзе, не ўсё проста. Трэба ведаць, калі найлепш іх збіраць, як сушыць, у якіх умовах захоўваць. Нарыхтоўка матэрыялу забірае шмат часу. Вось і атрымліваецца, што ўпрыгожыць вярбовыя галінкі можна за гадзіну, а рыхтаваць для гэтага матэрыялы трэба ледзь не цэлы год".***



*"Гродзенская" вярба плоская і па форме нагадвае птушынае пяро*

## РАМЯСТВО НЕ ДЛЯ БІЗНЕСУ, А ДЛЯ ДУШЫ

Дамініка Дамінікаўна зазначае, што яе сэрца перапаўняе радасць ад таго, што людзі захапляюцца вырабамі. ***"Кожная мая праца – гэта не толькі прыгожая кампазіцыя. У яе закладаю глыбокі сэнс і ўсю сваю душу,*** – прызнаецца Дамініка Дамінікаўна. – ***Некалькі гадоў таму ў мяне атрымалася вельмі незвычайная вярба – філасофская. 3 яе галінкі – гэта дарога, па якой мы ідзём да Бога. Сэрца са скручанага каласка сімвалізуе любоў да Госпада, да людзей і да сябе. Круглыя кветачкі, размешчаныя ў выглядзе светлафора, азначаюць прыпынкі на нашым жыццёвым шляху. А на самым версе вярбы – вясёлка з каласоў: мы ідзём у яе бок, шукаючы 8-мы колер – сэнс жыцця".***

Жанчына падкрэслівае, што "гродзенскія" вербы цешацца папулярнасцю не толькі ў нашым рэгіёне, але таксама ў розных кутках Беларусі і за яе межамі. На працягу 7-мі гадоў Дамініка Дамінікаўна прымала ўдзел у Фестывалі крэсовай культуры ў Мрангове (Польшча). Госці мерапрыемства вельмі ахвотна набывалі велікодныя вербы, хоць фестываль праходзіў улетку і, здавалася б, зусім не сезон. Пальмы даехалі да Англіі, Францыі, Кітая, ЗША.

***"«Гродзенскім» вербам прысвоены статус гісторыка-культурнай каштоўнасці,*** – ганарыцца Дамініка Дамінікаўна. – ***Цешыць той факт, што гэтым рамяством цікавіцца маладое пакаленне. У Гродне ўжо маем сваіх прадаўжальнікаў, якія ствараюць уласныя арыгінальныя вырабы. Таксама да нас прыязджалі рамеснікі з Брэшчыны і Гомельшчыны, хацелі пазнаёміцца з нашай тэхнікай упрыгожання вербаў. Дзякуй Богу, ахвочых не бракуе. Таму спадзяёмся, што, засвоіўшы азы, яны будуць развіваць майстэрства і перадаваць яго далей".***

*Кінга Красіцкая*



*Майстрыха стварае самыя разнастайныя варыянты абавязковага велікоднага атрыбуту, яскравым прыкладам чаго з'яўляецца філасофская вярба*



# СЛОВА ДЛЯ ЖЫЦЦЯ

### *Папа Францішак*



*Што значыць мець сапраўднае святло? Што значыць крочыць у святле? Перш за ўсё, гэта адмовіцца ад фальшывага святла: ад халоднага і недарэчнага святла забабонаў адносна іншых. Яны скажуць рэальнасць і спрыяюць нянавісці супраць тых, каго мы асуджаем без міласэрнасці і абвінавачваем без падстаў. Гэта паўсядзённы наш хлеб. Калі пляткуем аб іншых, мы крочым не ў святле, але ў цемры. Іншым фальшывым, так спакуслівым і двухсэнсоўным святлом, з'яўляецца асабістая карысць. Калі ацэньваем людзей і рэчы паводле крытэрыя нашага прыбытку, задавальнення, прэстыжу, мы не здзяйсняем праўды ў адносінах і ў сітуацыях. Калі пойдзем шляхам пошуку толькі асабістай карысці, то будзем крочыць у цемры.*

*Фрагмент разважанняў перад малітвай "Анёл Панскі", 26.03.2017*

---

### *Кс. бп Аляксандр Кашкевіч*



*Падобным чынам як да Марыі ў момант Звеставання Бог прыходзіць у штодзённасці да нас і гаворыць: "Не бойся". Не бойся даверыць Пану сваё жыццё, сказаць Яму "так". Не бойся, калі на жыццёвым шляху сустрэнеш цярпенне і крыж. Не бойся і павер. А верыць – значыць давяраць Пану і казаць Яму "fiat" кожны дзень. Верыць – значыць быць гатовым прыняць з Божай рукі ўсё, што Ён падрыхтаваў.*

*Няхай Найсвяцейшая Маці, верная і пакорная Слуга Пана, выпрошвае нам ласку глыбокай веры, каб мы па Яе прыкладзе ўсім сваім жыццём адказвалі Богу: "Fiat – няхай мне станецца паводле Твайго слова".*

*Фрагмент гаміліі, прамоўленай падчас урачыстасці Звеставання Пана, 25.03.2017*

---

### *Кс. абп Тадэвуш Кандрусевіч*



*Першае спатканне чалавека з Езусам адбылося падчас сакраманту хросту, калі яго воды ажывілі нас да новага духоўнага жыцця. Дзякуючы гэтаму сакраманту Хрыстос стаў крыніцай новага жыцця. Аднак з гэтым звязаны і новыя адказнасці: неабходнасць адмовіцца ад граху і жыць у стане Божай ласкі. Каб выйсці з благой залежнасці, найперш трэба прызнаць сваю грэшнасць, прызнаць, што мы выступаем супраць Бога. Наступны крок – звярнуцца да міласэрнага Айца, які паслаў свайго Сына на крыжовую смерць дзеля нашага збаўлення. А гэта акурат тое, да чаго заклікае Марыя ў фацімскім пасланні.*

*Фрагмент гаміліі, прамоўленай падчас св. Імшы ў парафіі МБ Ружанцовай у Ракаве, 28.03.2017*




◆ *Папа Францішак адмовіўся ад ганаровага дактарата (honoris causa) па медыцыне, які яму вырашыў даць універсітэт у Салерна (Італія). Такім чынам навучальная ўстанова пастанавіла ўшанаваць Пантыфіка за яго "агульнапрызнаныя здольнасці як лекара душ" і за тое, што з'яўляецца "знаўцам патрэб самых слабых і бедных". Спасылаючыся на адказ з Ватыкана ад дзяржаўнага сакратара кардынала П'етра Параліна, мясцовыя СМІ патлумачылі такое рашэнне тым, што "Святы Айцец не прымае адрозненняў".*

◆ *Адбудзецца кананізацыя бласлаўлёных Францішка і Гіяцынты Марто – малых пастушкоў, якім у 1917 годзе ў Фаціме з'явілася Маці Божая. Кангрэгацыя па справах кананізацыі са згоды папы Францішка абвясціла дэкрэт аб прызнанні цуду праз іх заступніцтва. Гэта адкрывае дарогу да кананізацыі дзяцей. Цяпер трэба чакаць абвяшчэння канкрэтных дат абраду. Невыключана, што кананізацыя магла б адбыцца ўжо 13 мая, падчас візіту Пантыфіка ў фацімскі санктуарый.*

◆ *У касцёле св. Антонія Падуанскага ў Сакулцы (Польшча), дзе меў месца эўхарыстычны цуд, будзе зачытаны дэкрэт арцыбіскупа Эдуарда Азароўскага, Мітрапаліта Беластоцкага, у якім ён абвяшчае гэтую святыню санктуарыем. Такі статус нададзены, між іншым, у сувязі з вялікай колькасцю вернікаў, якія наведваюць касцёл і атрымліваюць тут ласкі фізічнага і духоўнага аздараўлення. Пілігрымы прыбываюць з розных куткоў Польшчы і нават свету – з такіх аддаленых краін, як Кітай, Інданэзія, Аргенціна, Аўстралія і астравы Самоа. Колькасць ласкаў, што атрымліваюць вернікі, молячыся перад сакулкаўскай Гостьяй, увесь час узрастае.*

◆ *У Марктлі (Верхняя Баварыя) завяршаецца падрыхтоўка да святкавання 90-годдзя папы на пенсіі Бенедыкта XVI. Кожны год 16 красавіка дом, дзе нарадзіўся будучы Святы Айцец, пасля зімовага перапынку адчыніць свае дзверы. Гэта будзе таксама малы юбілей, паколькі ўжо на працягу 10-ці гадоў колішні прыватны будынак даступны для наведвальнікаў, а на працягу 40-ка гадоў сённяшні Папа на пенсіі з'яўляецца ганаровым грамадзянінам гэтага невялікага мястэчка. З моманту выбару кардынала Ёзафа Ратцынгера на Пасад св. Пятра, яго родны дом і парафія св. Освальда сталі месцам наведвання мноства турыстаў.*

◆ *Рымска-каталіцкая парафія св. Яна Паўла II у Львове (Украіна) арганізавала для верных экстрэмальны Крыжовы шлях. У начны час удзельнікі ішлі праз лясную мясцовасць, вёскі, палі, захоўваючы маўчанне і разважаючы над Божым словам. Агульная працягласць маршрута склала каля 27 км. На яго адважыліся каля сотні чалавек ва ўзросце 13–60 гадоў. Падобнае мерапрыемства плануецца ў Львове таксама ў ноч з 21 на 22 красавіка.*

*credo-ua.org; pch24.pl; niedziela.pl*

*Ангеліна Пакачайла*






# Звычаі Вялікага тыдня ў розных краінах

**ДЛЯ БОЛЬШ ЗА 2-УХ МІЛЬЯРДАЎ ХРЫСЦІЯН У ПАЛЬМОВУЮ НЯДЗЕЛЮ РАСПАЧЫНАЕЦЦА ВЯЛІКІ ТЫДЗЕНЬ. З ГЭТЫМ КУЛЬМІНАЦЫЙНЫМ ПРАМЕЖКАМ ЛІТУРГІЧНАГА ПЕРЫЯДУ Ў РОЗНЫХ ЧАСТКАХ СВЕТУ ЗВЯЗАНЫ РАЗНАСТАЙНЫЯ ТРАДЫЦЫІ.**

## ІСПАНІЯ

Вялікая пятніца – галоўны дзень адзначэння Вялікага тыдня. У Севільі ўжо папоўначы на вуліцы выходзяць найважнейшыя працэсіі: Езуса Усемагутнага, Маці Божай Надзеі і Маці Божай з базілікі Макарэна. На досвітку яны вяртаюцца ў касцёлы і капліцы, каб саступіць месца чарговым паходам. Там функцыянуе 52 архібрацтва, кожнае з якіх перасякае горад у асобнай працэсіі. Разам яны маюць каля ста "pasos", г. зн. сцэн Мукі Пана.

У Арагоніі смерць Езуса абвяшчае традыцыйны бой сотняў барабанаў. У некаторых гарадах, напрыклад, у Кардобе, паляць т. зв. "іудаў" – лялькі, якія сімвалізуюць Апостала, што выдаў Хрыста.

## БРАЗІЛІЯ

У залежнасці ад рэгіёна ўрачыстыя працэсіі адбываюцца з Вялікага аўторка па Вялікую пятніцу. Звычайна мужчыны выходзяць з аднаго касцёла пэўнай мясцовасці і нясуць фігуру Езуса з крыжом, а жанчыны – з іншага, скіроўваючыся за фігурай Маці Божай Балеснай. У вызначаным месцы – часта на галоўнай плошчы горада – адбываецца "балючая сустрэча Маці з Сынам". Там святар прамаўляе гамілію. Пасля казання вернікі аб'ядноўваюцца ў супольную працэсію з 2-ма фігурамі, і распачынаецца набажэнства Крыжовага шляху.

З 1992 года ў Вялікую пятніцу пакутныя сцэны прадстаўляе ў найбуйнейшай бразільскай фавэле (трушчобе) Расіньа ў Рыа-дэ-Жанейра тэатральная група "Roca Cacacultura". Бадай што самая вядомая інсцэніроўка, якую выстаўляюць ужо больш за 40 гадоў, дэманструецца ў горадзе Новы Іерусалім. У ёй прымаюць удзел каля 500 акцёраў, у тым ліку вядомыя дзеячы грамадскага жыцця. У мінулыя гады ролю Марыі Магдалены выконвала "Міс Бразілія" Наталля Гімарайнш. Усё відовішча дзеліцца на 9 сцэн, размешчаных у розных месцах горада. Гледачы вандруюць разам з акцёрамі. Агулам у містэрыі задзейнічана некалькі дзясяткаў тысяч чалавек.

## ФІЛІПІНЫ

У вёсцы Кутуд, якая знаходзіцца ў 80-ці кіламетрах на поўнач ад сталіцы Філіпінаў, існуе традыцыя дабравольнага ўкрыжавання ў Вялікую пятніцу. Звычайна распінаюць некалькіх чалавек. За пару гадзін перад прыбіваннем да крыжоў напаўраздзетыя ахвотнікі, на якіх накінуты капюшоны, бічуюцца бамбукавымі дубцамі і палкамі з усаджанымі ў іх кавалкамі шкла. Нягледзячы на жахлівасць усяго, што адбываецца, атмасфера пануе святочная – прадаюць піва, марожанае і нават сувенірныя бічы. Знакамітыя госці могуць назіраць за ўкрыжаваннем са спецыяльных глядзельных месцаў.

З 1960-х гадоў містэрыя ў Кутуд стала турыстычнай славутасцю, шырока асвятляемай СМІ. Укрыжаванні пачалі арганізоўваць таксама ў іншых частках Філіпінаў. Каталіцкі Касцёл, да якога належыць каля 80% з амаль што 90 мільёнаў жыхароў гэтай краіны, крытыкуе такую крывавую традыцыю як скажэнне веры.

## АНГЛІЯ

У Вялікую пятніцу ў некалькіх гарадах, у тым ліку і ў Лондане на Трафальгарскай плошчы, выстаўляюцца прадстаўленні Мукі Пана, дзе-нідзе, напрыклад, у Ёрку, нават цэлыя іх цыклы. Гэтую сярэднявечную традыцыю ўваскрасілі ў XX стагоддзі пасля доўгага перапынку, звязанага з Рэфармацыяй, калі былі забаронены ўсе формы тэатру. З XIX стагоддзя англіканская літургія з Вялікай пятніцы таксама паступова вяртаецца да дарэфармацыйнай традыцыі. Зноў пачалі арганізоўвацца працэсіі Крыжовага шляху. Падчас такой працэсіі ў мінулым годзе цяжкі крыж нёс арцыбіскуп Кентэрберыйскі Джасцін Уэлбі.








*Іспанія*

## ЧЭХІЯ

Толькі адзін дзень у апошнім тыдні перад Вялікаднем называюць "вялікім" – пятніцу. Астатнія дні акрэслены колерамі. Так серада называецца "чорнай", чацвер – "зялёным", а субота – "белай".

Папулярнай традыцыяй у час Вялікага тыдня з'яўляецца арганізаванне святочных ярмарак, дзе можна купіць драўляныя фігуркі, фарбаваныя яйкі, цукеркі і нават "памлазкі" – сплеценыя з вербавых галінак розгі. Імі ў Велікодны панядзелак хлопцы хвошчуць дзяўчат, атрымліваючы ўзамен пісанкі ці ласункі.

## ШВЕЦЫЯ

Дні Вялікага тыдня звязаны з цэлым шэрагам забабонаў. Напрыклад, у Вялікі чацвер пануе звычай пераапранацца ў "велікодных ведзьмаў". Звычайна гэта робяць дзяўчынкі ва ўзросце 5–11 гадоў. Яны ходзяць па дамах і ўзамен за святочныя паштоўкі ды віншаванні просяць укінуць у іх кошычак слодычы ці сімвалічную суму грошай. Гэтая традыцыя пайшла з вераванняў у тое, што на востраве Блакула адбываліся злёты ведзьмаў, якія, будучы паслухмянымі д'яблу, вербавалі сваіх наступніц і загадвалі ім непрыкметна пракрадвацца ў людскія ўладанні.

Вялікая субота з'яўляецца найважнейшым днём святочнага перыяду. Папоўдні спажываецца вытанчаны абед, які складаецца, перш за ўсё, з яек і рыбы. Дзеці ж вельмі цешацца, таму што менавіта ў гэты дзень велікодны заяц прыносіць ім вялікае святочнае яйка, у якім знаходзіцца шмат цукерак.

## ГРЭЦЫЯ

У Вялікі тыдзень абавязвае сціслы пост, калі забаронена спажываць мяса і малочныя прадукты. Аўторак прысвечаны малітве і чытанню Бібліі. У многіх дамах выпякаецца адмысловае печэнне "кулуракія". У сераду грэкі звычайна прыбіраюць свае кватэры, а вечарам ідуць у касцёл. Вялікі чацвер прызначаны для фарбавання яек і аздаблення ў святынях грабніцы Хрыста гірляндамі, якія называюць "epitaphios". Вялікая пятніца – дзень жалобы. Забаронена выконваць любую працу і спажываць салодкае. Традыцыйнай стравай з'яўляецца суп з кунжутнай пасты і цыбулі з дадаткам воцату. На наступны дзень грэкі пачынаюць гатаваць святочныя стравы. Перад 12-ай гадзінай ночы прымаюць удзел у св. Імшы, падчас якой святар пры дапамозе свечкі ўдзяляе святы агонь аднаму з вернікаў, які перадае яго далей. Калі прабівае поўнач, сабраныя цалуюць адзін аднаго ў шчокі і віншуюць словамі "Christo Anesti!", што значыць "Хрыстос Уваскрос!". Запаленыя свечкі забіраюць дадому.

## СВЯТАЯ ЗЯМЛЯ

У дні Вялікага тыдня адбываюцца ўрачыстыя св. Імшы ў базіліцы Гробу Пана, якая на гэты час становіцца найважнейшым хрысціянскім цэнтрам у Святой Зямлі. Літургія цэлебруецца ў панядзелак, аўторак і сераду. У аўторак таксама адпраўляецца Эўхарыстыя са спевам Мукі Пана Езуса ў кляштары Бічавання, дзе, згодна з мясцовай традыцыяй, прадстаўлены 2 першыя стацыі Крыжовага шляху – іерусалімскай Віа Далароза. У сераду адбываецца св. Імша ў Гефсіманіі, садзе Аліўным – базіліка Канання.



*Святая Зямля, Гроб Пана*

У гэты дзень у базіліцы Гробу Пана можна ўшанаваць важную рэліквію Мукі Хрыста – калону бічавання, якая знаходзіцца ў капліцы Найсвяцейшага Сакраманту.

Па-асабліваму адзначаюцца ўрачыстасці Пасхальнага Трыдууму. У Вялікі чацвер пілігрымы збіраюцца а 7-ай гадзіне ў базіліцы Гробу Пана, дзе цэлебруецца св. Імша пад кіраўніцтвам патрыярха Іерусаліма. Згодна з традыцыяй ён абмывае ногі клерыкам. Вечарам пілігрымы накіроўваюцца ў базіліку ў садзе Аліўным, у Гефсіманіі, дзе а 21-ай распачынаецца святая гадзіна, калі разважаецца Мука Пана. Адтуль пазней вырушае працэсія з лампадамі да палаца Каіафа, дзе Езус быў асуджаны перад Вярхоўным Саветам. Там таксама, успамінаючы Езуса, які стаяў перад Сінедрыёнам і быў пасаджаны ў турму ноччу з чацвярга на пятніцу, пілігрымы могуць у цішыні трываць на чуванні.

У Вялікую пятніцу базіліка Гробу Пана закрыта для наведвальнікаў. Яе адчыняюць толькі на літургію Мукі Пана, якая адбываецца ў 8.00 на Кальварыі, у месцы ўкрыжавання. У 11.30 выходзіць Крыжовы шлях вуліцамі Іерусаліма. Яго праводзяць айцы францысканцы. Тысячы людзей з розных краін ідуць праз Віа Далароза на Галгофу, перажываючы стацыі Хрыстовай Мукі.

У Іерусаліме ў Вялікую пятніцу існуе літургічная традыцыя, якой няма больш нідзе ў свеце. Калі сцямнела, вернікі збіраюцца ў базіліцы Гробу Пана, дзе адбываецца т. зв. пахавальная працэсія Езуса, якую ўзначальвае францысканскі кусташ Святой Зямлі. Спачатку знятую з крыжа фігуру Хрыста сімвалічна намашчваюць алеямі, згодна з традыцыяй намашчэння цела Езуса, а затым пераносяць і кладуць у грабніцу, якая знаходзіцца ў гэтай святыні.

У Вялікую суботу ў сувязі з неабходнасцю дзялення гадзін цэлебрацыі паміж рознымі хрысціянскімі канфесіямі каталіцкая Пасхальная вігілія адбываецца раніцай – ужо ў 7.30. Распачынаецца традыцыйна з распальвання агню перад базілікай Гробу Пана. Галоўнае святкаванне ў Іерусаліме вельмі красамоўнае, таму што адбываецца літаральна перад магілай Езуса, з якой Ён уваскрос. На працягу дня святыня, якая з'яўляецца адным з найсвяцейшых месцаў на зямлі, застаецца адкрытай.

*Падрыхтавала Кінга Красіцкая*

# Умілаваныя ў Хрысце Пану
# Браты і Сёстры! Дарагія Дыяцэзіяне!

*Велікодная радасць асвятляе сёння Касцёл ва ўсім свеце. У святынях, дамах і ў сэрцах хрысціян гучыць радаснае "Алелюя". Мы адзначаем урачыстасць Уваскрасення Пана – святкуем перамогу, якую Езус здабыў над грахом і смерцю.*

*Хрыстос Уваскрос! Ён жыве і будзе жыць навекі! Гэтая праўда паказвае нам моц бязмежнай любові Бога да чалавека. Тая самая любоў, якая была аб'яўлена на дрэве крыжа, сёння прамаўляе да нас у знаку пустой грабніцы.*

*Гэты знак нагадвае, што калісьці і нашы магілы, і магілы нашых блізкіх памерлых апусцеюць. Тады здзейсніцца той самы цуд, які сёння ўзгадваем – цуд уваскрасення. Св. Павел піша: „Калі ж мы памерлі з Хрыстом, то верым, што і жыць будзем з Ім, ведаючы, што Хрыстос, які ўстаў з мёртвых, ужо не памірае, смерць ужо не мае над Ім улады" (Рым 6, 8). А ці можа быць для чалавека большая радасць, чым усведамленне таго, што з кожным днём сваёй часовай вандроўкі ён кіруецца не да смерці і небыцця, але да паўнаты новага, сапраўднага жыцця, якое не будзе мець канца?*

*Трываючы ў гэтай пасхальнай радасці, якой адарыў нас Хрыстос праз сваё ўваскрасенне, складаю Вам, дарагія Браты і Сёстры, моц сардэчных віншаванняў. Няхай перамога Езуса над смерцю апраменіць радасцю кожны дзень жыцця, няхай напоўніць супакоем і верай сэрца, дазволіць верна ісці за Збаўцам шляхам веры, надзеі і любові. Ахінаю ўсіх Вас сваёй малітвай, жадаю Божага блаславлення, добрага здароўя і шчодрых ласкаў ад уваскрослага Пана.*

*Вясёлага Алелюя!*

***Аляксандр Кашкевіч***
*Біскуп Гродзенскі*

# Вялікдзень –
## найстаражытнейшае і найважнейшае хрысціянскае свята

Уваскрасеннем Пана з мёртвых быў здзейснены подзвіг выратавання чалавецтва, прымірэнне людзей са Стварыцелем. А гэта аснова веры, першая і самая галоўная ісціна, якая сімвалізуе перамогу жыцця над смерцю, адраджэнне і абнаўленне духоўнага свету чалавека. У гэты дзень вернікі святкуюць сваё адкупленне і магчымасць асягнення вечнага шчасця, што было здабыта коштам крыжовай смерці і змёртвыхпаўстання Збаўцы.

Некалькі слоў пра тое, як сёння хрысціяне адзначаюць галоўную ўрачыстасць і якія сярод вернікаў існуюць традыцыі, звязаныя з гэтым днём.

### НАВОШТА ФАРБУЕМ ЯЙКІ?

Згодна са старажытным паданнем, Марыя Магдалена адправілася ў Рым, каб прапаведаваць Евангелле. Яна прыйшла да імператара Ціберыя і прынесла яму ў падарунак яйка. Гучна вымавіла: "Хрыстос уваскрос!". Манарх запярэчыў, што чалавек не можа ўваскрэснуць, як не можа гэтае белае яйка стаць чырвоным. Тое адразу стала ружавець, а паступова зрабілася ярка-чырвоным. Пасля гэтай падзеі імператар прыняў хрост. З тых часоў на знак несмяротнасці жыцця вернікі фарбуюць яйкі.

Лічыцца, што самы адпаведны колер – чырвоны, бо ён сімвалізуе пакуты і кроў Збаўцы. Аднак у хрысціянскай традыцыі выкарыстоўваюцца і іншыя. Акрамя таго, велікодныя яйкі часта размалёўваюць і аздабляюць.

Да ўвагі! У якасці ўпрыгожання на яйках могуць змяшчацца налепкі з абразамі. Чысцячы пачастунак ад шкарлупіны, іх неабходна акуратна садраць і спаліць. Парваць і выкінуць выявы Езуса і святых – грэх святатацтва.

### У ЧЫМ СУТНАСЦЬ ВАЛАЧОБНАЙ ТРАДЫЦЫІ?

Звычай абыходзіць двары на Вялікдзень мае старажытныя карані. З даўніх часоў па вёсках і гарадах ходзяць так званыя валачобнікі і спяваюць песні, у якіх славяць уваскрасенне Хрыста. Гаспадары, у чый дом завіталі з Добрай Навіной, частуюць гасцей рознымі прысмакамі. Традыцыя дазваляе раздзяліць радасць ад урачыстасці з бліжнім.

Валачобны звычай на тэрыторыі Беларусі найбольш распаўсюджаны ў цэнтральнай і паўночна-заходняй частцы краіны. Амаль не сустракаецца на Палессі.

### ЧАМУ ДАТЫ ВЯЛІКАДНЯ Ў КАТОЛІКАЎ І ПРАВАСЛАЎНЫХ ЗВЫЧАЙНА АДРОЗНІВАЮЦЦА?

У літургічным календары свята Уваскрасення Пана рухомае. Для вылічэння даты ўрачыстасці праваслаўная Царква карыстаецца старажытным юліянскім календаром, а каталіцкі Касцёл – грэгарыянскім, на які перайшоў у XVI стагоддзі (стрэлкі гадзінніка былі пераведзены на 10 дзён наперад, каб зрушыць раўнадзенства на ранейшую дату). І таму толькі ў 30% выпадкаў Вялікдзень у вернікаў розных канфесій выпадае на адзін дзень. У астатні час свята ў католікаў надыходзіць раней. Розніца ў часе можа даходзіць да месяца.

Як паведамляюць італьянскія СМІ, Папа Рымскі Францішак выказваўся аб тым, што Касцёл можа пераглядзець метад разліку даты Вялікадня, каб хрысціянская супольнасць святкавала ўрачыстасць Уваскрасення Пана ў адзін дзень. Пакуль што праваслаўныя і католікі маюць адзіную Пасху толькі ў Фінляндыі. Там гэта свята адзначаецца па заходнім календары на афіцыйным узроўні.

У бягучым годзе ўсе хрысціяне свету сустракаюць Вялікдзень разам 16 красавіка. Наступны раз свята ў католікаў і праваслаўных прыпадае на адзін дзень 20 красавіка ў 2025 годзе.

**У Вялікдзень важна адкрыць сваё сэрца для Бога і бліжняга. Па прыкладзе Збаўцы атуліць цяплом і клопатам іншых людзей, а асабліва тых, хто мае патрэбу ў дапамозе і спагадзе. За падарункамі і пачастункамі варта не згубіць сапраўдную радасць Вялікадня, якая грунтуецца на трыумфе непераможнага Бога.**

*Ангеліна Пакачайла*

# Велікодны кошык



***У Вялікую суботу вернікі прыбіраюцца ў святочную вопратку, бяруць з сабой падрыхтаваную для асвячэння "пасху" і ідуць у касцёл, каб блаславіць стравы на велікодны стол. У кошыку павінны быць яйкі, хлеб, вяндліна, хрэн, перац, соль, сыр, велікодная здоба, пасхальнае ягня. Кожны з Божых дароў мае ўласны характэрны сімвал, які нагадвае пра мукі і ўваскрасенне Хрыста.***

### ЯЙКІ
Сімвал плоднасці, адраджэння жыцця, знак перамогі Езуса над смерцю. Яйкі распісваюць ці фарбуюць у розныя колеры. Найбольш распаўсюджаны варыянт шкарлупіны – карычнева-залацістыя, калі папярэдне яйка "купаюць" у лісцях цыбулі.

### ХЛЕБ
Сімвал паўсядзённых патрэб чалавека: сытасці, годнага жыцця. Вернікі нястомна просяць у малітве Нябеснага Айца аб хлебе штодзённым. А пакольki маюць яго з Божай шчодрасці, то прыносяць для блаславлення ў святыню. Таксама гэта робіцца на ўспамін аб тым Хлебе, які сышоў з неба, – Хрысце.
У кошык можна пакласці любы від хлеба: чорны, белы. Некаторыя вернікі спецыяльна да Вялікадня выпякаюць хлеб па асабліваму рэцэпту – пасхальны.

### МЯСА І ВЯНДЛІНА
Сімвал дабрабыту, дастатку: не толькі матэрыяльнага, але і духоўнага.
У кошык можна пакласці разнастайныя віды вяндліны ці каўбасу, кавалак сала ці ялавічыны.

### ЧОРНЫ ПЕРАЦ
Сімвалізуе горкія зёлкі, якія іудзеі дадавалі да пікантнага соусу харасэт рыжага колеру. У яго абмоквалі кавалкі здобнага пасхальнага ягняці на ўспамін аб цяжкай нявольніцкай працы пры вырабе цэглы ў Егіпце.

### ХРЭН
Прыгадвае аб перааdоленні Хрыстовай мукі горычы. Таксама сімвалізуе фізічную сілу і жыццядольнасць.
Хрэн можна пакласці цёрты і змешаны з яйкам і смятанай.

### СОЛЬ
Дадае стравам смаку, захоўвае прадукты ад псавання, а таксама сімвалізуе захаванне чалавека ад духоўнай сапсаванасці, навяртанне і ачышчэнне. Для хрысціян соль з'яўляецца знакам сутнасці жыцця і праўды. Адсюль гаворка пра "соль зямлі" – так Езус называў сваіх вучняў, выбраных.

### СЫР
Прадукт увасабляе страву, якая не можа быць выраблена выключна рукамі чалавека. Малако – сыравіна, якая з'яўляецца дарам прыроды. І як маці корміць сваё дзіця, гэтак жа малако з'яўляецца сімвалам ахвярнасці Бога.
Найлепш, калі сыр выраблены з малака авечкі, казы або каровы.

### ВЕЛІКОДНАЯ ЗДОБА
Сімвал умеласці і дасканаласці, да якіх павінен імкнуцца кожны чалавек як у паўсядзённым жыцці, так і ў духоўным.
Здоба – найлепш хатняй выпечкі. Традыцыйны кулінарны выраб – дражджавая бабка.

### ПАСХАЛЬНАЕ ЯГНЯ
Нявіннасць ягняці, яго сляпая паслухмянасць прыгадваюць Хрыста, які, будучы нявінным, аддаў сваё жыццё, бо быў паслухмяны Айцу. Езус адкупіў людзей, і цяпер яны пакліканыя да вечнага святкавання вячэры Баранка. Для чалавека гэта выразны прыклад пакоры і лагоднасці.
Сёння часцей за ўсё можна сустрэць баранкаў, спечаных з цеста або выраблены з цукровай масы. У кошык таксама можна пакласці гіпсавую, фарфоравую, шкляную, гліняную ці пластыкавую фігуру.







### *Ружанцы з Польшчы адпраўляюцца на фронт у Данбас*

***Акцыя з'яўляецца адказам на просьбу ўкраінцаў, ахопленых ваеннымі дзеяннямі.***

*Група дапамогі Касцёлу на Усходзе заахвочвае палякаў перадаваць ружанцы для жыхароў Данбаса і салдат, якія змагаюцца на фронце. "Кожны мае дома які-небудзь ружанец, на якім ужо не моліцца. Але ружанцы неаднойчы ратуюць псіхіку тых людзей", – паведаміла Вікторыя Гарчанка з фонду "Дапамога палякам Данбаса", які падтрымлівае збор.*




### *"Ноч сведкаў"*

***Пад такой назвай у многіх гарадах Францыі адбыліся начныя набажэнствы ў інтэнцыі хрысціян усяго свету, якія церпяць праслед.***

*Як падкрэсліў нацыянальны дырэктар французскай секцыі Дапамогі Касцёлу ў патрэбе Марк Фрамагер, мэтай ініцыятывы была прэзентацыя асоб, якія, часта нават рызыкуючы жыццём, "жывуць тым, аб чым гавораць". Растлумачыў, што сваёй назвай яна спасылаецца на ночы самотнасці, якія вымушаны перажываць многія ахвяры прыгнёту і насілля.*

*Падчас малітоўнага чування зачытваліся прозвішчы хрысціян, якія ў апошні час аддалі жыццё за веру. Гэтаму спадарожнічалі спевы, сведчанні і роздум над плёнам мучаніцтва.*




### *Лічбавыя графіці супраць вандалаў*

***У катэдральным саборы Санта Марыя дэль Фьёрэ ў Фларэнцыі (Італія) усталяваны спецыяльныя панэлі, дзе турысты могуць пакідаць свае надпісы. Дадзеная мера ўведзена для таго, каб міра змагацца з вандаламі.***

*Сістэма "лічбавых графіці" дзейнічае ўжо на працягу года. Па словах супрацоўнікаў музея, яна з поспехам апрабавала сябе: наведвальнікі помніка архітэктуры пакінулі на электронных панэлях больш за 18 тысяч запісаў. "Калі вы напішаце віртуальнае паведамленне, то мы яго захаваем. Таксама, як і шэдэўры сабора", – гаворыцца на інфармацыйнай дошцы побач з лічбавымі панэлямі.*

*Сабор Санта-Марыя дэль Фьёрэ з'яўляецца самай пазнавальнай славутасцю Фларэнцыі і 5-ай па велічыні святыняй у свеце.*

*Кінга Красіцкая*

## У Гервятах развіталіся са спачылым пробашчам кс. Леанідам Несцюком

*Шматгадовы пробашч парафіі Найсвяцейшай Тройцы адышоў у вечнасць 24 сакавіка і быў пахаваны 27 сакавіка каля мясцовай святыні. У развітальнай св. Імшы прынялі ўдзел арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч, біскуп Аляксандр Кашкевіч і біскуп Юрый Касабуцкі, святары, кансэкраваныя асобы, прадстаўнікі мясцовай улады, шматлікія вернікі з ваколіц і бліжняга замежжа.*

Літургія, якую ўзначаліў арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч, Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі, адбывалася на 3-ох мовах – беларускай, польскай і літоўскай (на іх традыцыйна моляцца вернікі гервяцкай парафіі). У гаміліі іерарх падкрэсліў нязменнасць праўды пра смерць, якая можа прыйсці нечакана, пра што сведчыць адыход у вечнасць кс. Леаніда Несцюка. "Як неабходна глядзець на смерць? – задаваўся пытаннем арцыбіскуп. – Калі б ёю ўсё завяршалася, то чалавек быў бы самым няшчасным стварэннем. Мы, хрысціяне, павінны глядзець на смерць праз прызму праўды ўваскрасення Хрыста, да перажывання якой нас вядзе Касцёл у Вялікім посце і якую нёс людзям кс. Леанід амаль 35 гадоў – спачатку ў Літве, пасля ў Іўі і затым у Гервятах".

Мітрапаліт таксама падкрэсліў, што спачылы кс. Леанід пасля 3-ох пакаленняў атэізацыі на беларускай зямлі ўзнёс духоўны помнік веры і матэрыяльны – у выглядзе аднаўленага касцёла з упрадкаваным пры ім тэрыторыяй. "Няхай ніколі не зарасце да яго людская сцежка", – дадаў арцыбіскуп Кандрусевіч.

Вернікі парафіі з вялікай узрушанасцю трывалі на малітве ў інтэнцыі свайго пробашча. Дзякавалі за кс. Леаніда, якога ім паслаў Божы Провід.



***Адданы Богу і людзям***

Кс. Леанід Нясцюк нарадзіўся 24 мая 1955 года. Прэзбітэрскае пасвячэнне атрымаў з рук біскупа Людвікаса Павілоніса 22 мая 1982 года ў Каўнасе (Літва). З 1996 года з'яўляўся пробашчам парафіі Найсвяцейшай Тройцы ў Гервятах. У 2016 годзе ўзнагароджаны медалём І ступені "За заслугі перад Вільнюсам і яго народам".

Для парафіян кс. Леанід быў сапраўдным айцом і добрым дарадцам у цяжкія хвіліны жыцця. За час пастырскага служэння святар не адзін раз наведваў дамы вернікаў, удзяляў святыя сакраманты, меў для кожнага добрае слова і параду. Быў чалавекам вялікага сэрца, і ўмеў дзяліцца гэтым сэрцам з іншымі.

У Гервятах кс. Леанід праявіў сябе не толькі як выдатны душпастыр, але і як таленавіты рэстаўратар і ландшафтны дызайнер. Менавіта пад яго кіраўніцтвам мясцовы касцёл цалкам перамяніўся: быў абноўлены фасад, дах, прылеглая тэрыторыяператварылася ў маленькі Версаль. Святар стварыў вакол святыні дэндрапарк з рэдкімі дрэвамі. Спрыяў узнікненню ў ім плошчы са скульптурамі Міхала Арханёла і 12-ці Апосталаў.

## "Пасхальныя сакраманты – дар новага жыцця"

*Пад такім дэвізам у кляштары сясцёр назарэтанак у Навагрудку адбыліся рэкалекцыі для дзяўчат. На працягу некалькіх дзён удзельніцы з Гродна, Маладзечна, Гераёнаў, Смаргоні, Навагрудка спалучалі малітву з адпачынкам, узаемна ўзбагачаліся, дзелячыся сведчаннем веры, і шукалі адказы на турбуючыя пытанні.*

Разам з манахінямі і кс. Міхаілам Бубенам дзяўчаты разважалі над важнасцю сакрамантаў, якія дапамагаюць хрысціяніну ўзрастаць да дасканаласці і дазваляюць жыць у Божым святле. Сярод прысутных прагучаў заклік паставіць Эўхарыстыю ў цэнтр свайго жыцця, каб яна кіравала ўсімі жыццёвымі выбарамі, а таксама заклік шчыра прыступаць да сакраманту пакаяння, які нанова дае чалавеку збаўчальную ласку, патрэбную для збаўлення.



Падчас духоўных практыкаванняў дзяўчаты адаравалі Найсвяцейшы Сакрамант, маліліся перад саркафагам блаславёных назарэтанак-мучаніц у рэктаральным касцёле Перамянення Пана. У вольны час знаёміліся з багатай гісторыяй Навагрудка.

## Велікапосная фармацыйная сустрэча чыгуначнікаў прайшла ў Вадавіцах (Польшча)

*У спатканні пад дэвізам "Ідзіце і абвяшчайце" прынялі ўдзел прадстаўнікі Душпастырства чыгуначнікаў Гродзенскай дыяцэзіі.*

Падчас сустрэчы члены супольнасці ўдзельнічалі ў тэматычных канферэнцыях, св. Імшах і Крыжовым шляху, працавалі ў групах і дзяліліся ўласным досведам веры. Рэкалекцыі сталі нагодай да паглыбленага роздуму над плёнам асабістага паяднання з Хрыстом. Духоўныя практыкаванні ажывілі працаўнікоў чыгункі, каб яны маглі выйсці да тых братоў і сясцёр, якія страцілі кантакт з супольнасцю вернікаў або якім не было дадзена пазнаць Збаўцу і яны працягваюць жыць па-за Касцёлам.



У межах рэкалекцый удзельнікі наведалі музей св. Яна Паўла ІІ у Вадавіцах і санктуарый у Кальварыі Зэбжыдоўскай, дзе памаліліся перад цудатворным абразом Маці Божай Кальварыйскай.

## Вернікі з Ліды і Ваўкавыска прынялі ўдзел у днях засяроджання

*Галоўнай тэмай сустрэч былі словы: "Разумнасць нашых цярпенняў на зямлі ў спалучэнні з пакутамі Езуса Хрыста. Перажыванне радасці Пасхі сярод нягод зямнога жыцця".*

У межах духоўных практыкаванняў, якія праходзілі ў Ваўкавыску, вернікі супольна трывалі на малітве, разважалі на тэмы Вялікага посту, які з'яўляецца часам асаблівага дотыку Божай ласкі. Таксама прынялі ўдзел у св. Імшы ў парафіі ў Дзярэчыне, якую цэлебраваў кс. Яўген Учкуроніс.

"Падчас сустрэчы мы прыйшлі да высновы, што вельмі часта чалавек падобны на ізаляваны электрычны провад. Пакуль ён добраахвотна не вызваліць ад ізаляцыі сваё сэрца і ў акце веры не дакранецца ім да Бога, збаўчая моц любові не зможа да яго дабрацца. Бывае, што страта



каштоўнасцей гэтага свету – блізкага чалавека, грошай, жылля, працы, здароўя – або перажыванне розных цяжкасцей робіць шчыліну ў ізаляцыі. І калі ў гэты час чалавек сэрцам дакранецца да рэлігійных каштоўнасцей, то адчуе моц, якая ў іх заключана, спазнае жывую любоў Бога, што лечыць зболелае людское сэрца", – адзначыла адна з удзельніц спаткання.

## Сустрэча на тэму Вялікага посту прайшла ў лідскім клубе "Актыўнае даўгалецце"

*Спатканне правёў кс. Юрый Бяганскі, душпастыр у цэнтральнай раённай бальніцы.*

Тэматычная сустрэча адбылася ў межах "Польскага гутарковага клуба". Яго наведваюць сталыя людзі з супольнасці "Актыўнае даўгалецце", што дзейнічае пры аддзеле дзённага знаходжання для грамадзян пажылога ўзросту пры Цэнтры сацыяльнага абслугоўвання ў Лідзе. Удзельнікі спаткання разам са святаром разважалі над гісторыяй і традыцыямі Вялікага посту, пакаяннем, прабачэннем і ахвярай.

Кс. Юрый наведвае "Польскі гутарковы клуб" кожны панядзелак. Адказвае



на хвалюючыя пытанні людзей, бліжэй знаёміць іх з праўдамі веры, тым самым аказваючы патрабуючым неабходную духоўную падтрымку.

## У Беларусі плануецца правядзенне першага pro-life кангрэсу

*Меркаваная дата правядзення форуму – канец 2018 года. Кансультацыі на гэты конт вядуцца з Мітрапалітам Мінска-Магілёўскім арцыбіскупам Тадэвушам Кандрусевічам і Радай па справах сям'і Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі.*

На кангрэсе будуць абмяркоўвацца актуальныя праблемы сучаснасці. Між іншым, пагроза гендэрнай ідэалогіі, непарыўны саюз сужэнства, вобраз Божы ў чалавеку, негатыўны ўплыў на беларускае грамадства дзейнасці некаторых міжнародных кампаній, якія рэкламуюць кантрацэпцыю і аборты. Арганізатары мерапрыемства плануюць




раскрыць механізмы іх дзеяння і паказаць, чаму Беларусь павінна быць незалежнай ад тых міжнародных лобі, якія прасоўваюць антыхрысціянскія і антысямейныя каштоўнасці.

## Велікапосныя рэкалекцыі адбыліся ў парафіі св. Міхала Арханёла ў Смаргоні

*Сёлета духоўныя практыкаванні правёў кс. Юрый Марціновіч, адказны за СМІ Гродзенскай дыяцэзіі. Падчас рэкалекцый спецыяльныя навукі былі скіраваны да дзяцей, моладзі, маладых сужэнстваў.*

Вернікі разважалі над Божым словам, якое прапанаваў на гэтыя дні Касцёл. Святар нагадваў прысутным пра абавязак любіць Бога і чалавека. Заклікаў нястомна навяртацца і паўставаць з граху, які аддаляе ад Пана.

Актыўна час рэкалекцый перажывалі дзеці і моладзь. Яны мелі магчымасць "спаткацца" з фаціміскімі пастушкамі і прыгадаць сабе пасланне Маці Божай, скіраванае ў Партугаліі 100 гадоў таму. Разам з рэкалекцыяністам і сёстрамі салезіянкамі, якія служаць у парафіі, моладзь таксама шукала адказ на пытанне: як сёння быць



сапраўдным сведкам Езуса Хрыста ў свеце?

Упершыню ў праграме парафіяльных рэкалекцый у Смаргоні адбылася сустрэча з маладымі сем'ямі. Сужэнцы дзяліліся тым, як адпаведным чынам перажываць час Вялікага посту, каб раніцай Вялікадня спазнаць сапраўдную радасць уваскрасення Пана.

## Дзень засяроджання для міністрантаў адбыўся ў Лідзе

*Падчас сустрэчы, якая ладзілася ў парафіі Святой Сям'і, члены літургічнай службы алтара асаблівым чынам разважалі над значэннем свайго служэння.*

У межах дня засяроджання кл. Віталій Валюк правёў для міністрантаў канферэнцыю на тэму "Езус – мая сіла і шчыт", а таксама распавёў удзельнікам пра сваё пакліканне і заахвоціў часцей задумвацца над Божым заклікам, не баяцца адказваць на яго словам і дзеяннем.

Падсумаваннем сустрэчы стала св. Імша, падчас якой кс. Юрый Гурскі падзякаваў міністрантам за іх актыўнае служэнне



і сведчанне, якое даюць сваім сябрам і знаёмым.

## АНОНСЫ

### ДЫЯКАНЫ АНДРЭЙ БЕЛАБЛОЦКІ І АНДЖЭЙ ГАНЧАР АТРЫМАЮЦЬ ПРЭЗБІТЭРСКІЯ ПАСВЯЧЭННІ

**Урачыстая св. Імша, на якой выпускнікі Вышэйшай духоўнай семінарыі ў Гродне атрымаюць пасвячэнне з рук біскупа Аляксандра Кашкевіча, адбудзецца 29 красавіка ў 10.00 у гродзенскай катэдры.**

Дыякан Андрэй Белаблоцкі паходзіць з парафіі св. Францішка Ксаверыя ў Гродне, дыякан Анджэй Ганчар – з парафіі Узвышэння Святога Крыжа ў Лідзе.

## У малітве ўспамінаем памерлых душпастыраў:

**19 красавіка 1947 г.** – кс. Марцін Пузырэўскі, *проб. Адэльск.*

*Пры падрыхтоўцы навін выкарыстоўвалася інтэрнэт-старонка **grodnensis.by***

# Ад шчырага сэрца

**Глыбока паважаным Ксяндзам Біскупам Аляксандру Кашкевічу і Юзафу Станеўскаму**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят шчыра жадаем добрага здароўя, цярплівасці ў выкананні штодзённых абавязкаў, нястомнай дапамогі Маці Божай, усіх дароў Святога Духа, а таксама радасці, душэўнага супакою і рэалізацыі ўсяго задуманага. Няхай Ваша пастырская паслуга прыносіць шчодры плён, а на шляху сустракаюцца толькі добразычлівыя людзі. Радаснага Вялікадня!

*Рэдакцыя "Слова Жыцця"*

**Глыбока паважаным Ксяндзам Біскупам Аляксандру Кашкевічу і Юзафу Станеўскаму**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят ад усяго сэрца жадаю моцнага здароўя, нястомных сіл у душпастырскай працы, душэўнага супакою і ажыццяўлення ўсіх высакародных планаў і намераў. Няхай Маці Божая штодзённа Вамі апекуецца, а Святы Дух адорвае ўсімі неабходнымі ласкамі. Шчасці Божа!

*С. Ірэна Златкоўская, Генеральная настаяцельніца Супольнасці сясцёр дапаможніц чысцовым душам*

**Паважаным Ксяндзам Біскупам Аляксандру Кашкевічу і Юзафу Станеўскаму, Айцу Андрэю Ядкоўскаму**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят перасылаем сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, мудрасці і чулых людскіх сэрцаў. Няхай уваскрослы Езус – Найвышэйшы Святар – будзе крыніцай радасці і супакою. Няхай Ён благаслаўляе Вас у душпастырскай працы кожны дзень.

*З памяццю ў малітве, члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Гродзенскай дыяцэзіі*

**Іх Эксцэленцыям Ксяндзу Арцыбіскупу Тадэвушу Кандрусевічу, Ксяндзам Біскупам Аляксандру Кашкевічу, Юзафу Станеўскаму, Антонію Дзям'янку, Пробашчу Яну Кучынскаму, Валерыю Быкоўскаму, Паўлу Безляповічу, Паўлу Скубу, Аляксандру Сямінскаму, Аляксандру Мацкевічу, Валерыю Спірыдону, Юрыю Ясевічу, Віталію Дабраловічу, Айцу Казіміру Жылісу, усім Ксяндзам і Сёстрам Гродзенскай дыяцэзіі, Рэктару і Клерыкам Гродзенскай вышэйшай духоўнай семінарыі**

з нагоды свят Уваскрасення Пана перасылаем шчырыя віншаванні і словы падзякі. Жадаем, каб у Вашым жыцці было больш святла, любові, чалавечага цяпла і ўзаемаразумення, падтрымкі і добрых спраў. Няхай сэрцы поўняцца Божым благаслаўленнем, пачуццё светлай радасці не пакідае душу. Ваша жаданне тварыць дабро, аддаваць сябе Хрысту і ісці за Ім з'яўляецца прыкладам для ўсіх нас. Дзякуем Богу за тое, што паслаў нам Вас. Няхай уваскрослы Хрыстос заўсёды і ва ўсім дапамагае, а Марыя Панна і Святы Дух адорваюць Вас сваімі ласкамі.

*З малітвай, апостальства "Маргарытка" з парафіі св. Францішка Ксаверыя ў Гродне*

**Паважанаму Ксяндзу Біскупу Юзафу Станеўскаму**

з нагоды Дня нараджэння перасылаем сардэчныя віншаванні: любові і благаслаўлення ад Пана, радасці, здароўя і стойкасці на далейшыя гады. Няхай Езус заўсёды будзе Тваім Сябрам, Святы Дух раз'ясняе сваім святлом кожны дзень паслугі, а Найсвяцейшая Маці прытуляе да свайго сэрца.

*Мама і родныя*

**Паважаным Ксяндзам Паўлу Шанчуку, Ігнату Санюту, Віталю Чабатару, Станіславу Мацюкевічу**

з нагоды Дня святара і свят Уваскрасення Пана складаем сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, добрых і зычлівых людзей побач. Хай усе намеры рэалізуюцца, кожны дзень напаўняецца Божай радасцю і святлом, а ўваскрослы Хрыстос дадае сіл і цярплівасці. Плённага супрацоўніцтва з Духам Святым і Яго шчодрых дароў, моцнай веры і блізкасці з Езусам. Няхай Маці Божая ахінае Вас плашчом сваёй апекі і любові.

*Вернікі з парафіі МБ Шкаплернай, в. Прывалка*

**Паважаным Ксяндзам Антонію Грэмзу і Уладзіміру Шкурынскаму**

з нагоды Дня святара і свят Уваскрасення Пана перасылаем шчырыя пажаданні: дабрыні, цяпла і спакою на душы, мірнага неба над галавой, моцнага здароўя, а побач добрых і вясёлых людзей. Няхай святы падораць гармонію і радасць, каб усе шкаданні і крыўды сышлі прэч, а засталіся толькі любоў і шчасце. Няхай добры Бог благаслаўляе, а Маці Божая няспынна Вамі апекуецца.

*З малітвай, апостальства "Маргарытка"*

**Паважанаму Ксяндзу Здзіславу Пікулу**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят перасылаем сардэчныя пажаданні, спалучаныя з малітвай. Жадаем шчодрых Божых ласкаў, здароўя на доўгія гады, дароў Святога Духа, няспыннай апекі Маці Божай, стойкасці на святарскім шляху, які Вам вызначыў усемагутны Бог, а таксама людской дабрыні. Дзякуем за працу, якую кожны дзень ускладаеце на алтар, ведучы нас да Бога. Хрыстос Уваскрос! Алелюя!

*З малітвай і павагай, вернікі з Дзятлава*

**Паважаным Ксяндзам Казіміру Мураву і Алегу Жураўскаму**

з нагоды Дня святара і свят Уваскрасення Пана перасылаем сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, святла Святога Духа, чулых людзей побач. Няхай уваскрослы Хрыстос, Найвышэйшы Святар, адорыць сваёй міласэрнасцю і будзе крыніцай любові і супакою ў Вашым штодзённым жыцці. Дзякуем за працу ў нашай парафіі, цярплівасць, прыгожыя, мудрыя і павучальныя казанні, дабрыню і сціпласць, клопат пра людзей і чулае сэрца.

*Сем'і Іода, Валяк, Лях і былыя парафіяне з Дзятлава*

**Паважаным Сёстрам Аліцы, Ліліяне, Тэрэзе, Караліне, Мірыям, Рэгіне, Наталлі з Кангрэгацыі Школьных сясцёр Нотр-Дам**

з нагоды свят Уваскрасення Пана складаем сардэчныя пажаданні. Няхай уваскрослы Езус апекуецца Вамі і адорвае моцным здароўем, дадае ўпэўненасці і напаўняе душу супакоем. Дзякуем Богу за тое, што Вы для нас зрабілі. Няхай Маці Божая ахінае Вас сваёй ласкай і прытуляе да свайго сэрца.

*Са шчырай малітвай, Людміла, Тацяна, Вольга*

**Паважанаму Ксяндзу Валерыю Лісоўскаму**

з нагоды Дня святара і свят Уваскрасення Пана складаем шчырыя пажаданні: плённага служэння на Божай ніве, натхнення Святога Духа, апекі Маці Божай і святога Заступніка. Няхай кожны дзень становіцца для Вас цудоўнай магчымасцю, каб годна і аддана служыць Богу і людзям.

*Вернікі з парафіі Найсвяцейшай Панны Марыі ў Вярэйках*

**Паважаным Ксяндзам Пробашчу Яну Этэлю, Эдуарду Сінкевічу, Аляксандру Фядотаву**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят ад усяго сэрца жадаем шчодрых Божых ласкаў на кожны дзень, моцнага здароўя, радасці ў душпастырскай паслузе. Няхай уваскрослы Хрыстос напаўняе Ваша жыццё святлом і суправаджае на святарскім шляху, Святы Дух адорвае сваімі ласкамі, а Маці Божая ахінае плашчом сваёй любові і апекі.

*З павагай, "Легіён Марыі", група "Добрага Пастыра", Касцёльны камітэт і ўдзячныя вернікі з парафіі Божай Міласэрнасці ў Гродне*

**Паважанаму Ксяндзу Дзянісу Шмыгіну**

з нагоды Велікодных свят жадаем душэўнага супакою, моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця. Няхай кожны Ваш дзень будзе шчаслівым і радасным. Няхай уваскрослы Езус, які прыносіць супакой усяму чалавецтву, вядзе Вас па прыгожай дарозе, Святы Дух асвятляе Ваш шлях, а Маці Божая нястомна апекуецца. Няхай людзі Вас шануюць, а Бог благаслаўляе. Радасных свят!

*Парафіяне з касцёла Звеставання НПМ з в. Мяжэрычы*

**Паважаным Ксяндзу Віктару Субелю, Сёстрам Агнешцы і Ганне, Кансэкраваным Удовам Сабіне і Зоф'і**

з нагоды Вялікага чацвярга і свят Уваскрасення Пана перасылаем сардэчныя пажаданні: здароўя на доўгія гады, шчасця, радасці, добразычлівых людзей побач. Няхай уваскрослы Хрыстос адорвае Вас любоўю і апекай, Святы Дух асвятляе кожны дзень жыцця і ўпрыгожвае яго супакоем у Божай ласцы. Дзякуем за цудоўны прыклад веры і набожнасці.

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам, парафіяне з касцёла Святой Тройцы ў Сурвілішках*

**Паважаным Ксяндзам Пробашчу Паўлу Беланосу, Яраславу Грынашкевічу, Клерыку Аляксандру Жоліку**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя на доўгія гады жыцця, душэўнага супакою, радасці, добразычлівых людзей побач і нязгаснай надзеі на лепшае. Няхай Маці Божая нястомна Вамі апекуецца, а Святы Дух адорвае ўсімі сваімі дарамі.

*Удзячныя парафіяне з Макараўцаў*

**Паважанаму Ксяндзу Вячаславу Матукевічу**

з нагоды Велікодных свят перасылаем букет найлепшых пажаданняў. Няхай кожны дзень будзе напоўнены супакоем і Божым благаслаўленнем, побач будуць добразычлівыя людзі, а здароўе, радасць і поспех ніколі Цябе не пакідаюць. Жадаем няспыннай апекі Маці Божай, а таксама ўсіх ласкаў ад уваскрослага Хрыста.

*Бацькі*

**Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Адамовічу**

з нагоды свят Уваскрасення Пана жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, шчаслівых дзён душпастырскай паслугі. Няхай Маці Божая апекуецца Вамі і вядзе праз усё жыццё. Моцы, сілы і нязгаснага запалу ў служэбе Богу і людзям!

*З удзячнасцю, парафіяне з в. Гінэлі*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Паўлу Звяжынскаму**

з нагоды Дня святара і свят Уваскрасення Пана жадаем моцнага здароўя на доўгія гады, сілы і цярплівасці на нялёгкім святарскім шляху. Няхай Вам заўсёды спадарожнічаюць Пан Езус і Яго Найсвяцейшая Маці, а жывы агонь Святога Духа, які палае ў Вашым сэрцы, ніколі не аслабне. Дзякуем за цудоўнае абвяшчэнне Божага слова, мудрыя павучанні, шчырыя малітвы, добрае і чулае сэрца, ратаванне і навяртанне нашых душ.

*З малітвай і павагай, вернікі з касцёла св. Юзафа ў Варнянах і капліцы ў Вароне*

**Паважаным Ксяндзам Пробашчу Вітольду Лазавіцкаму, Паўлу Раманоўскаму, Андрэю Радзевічу, Яну Раманоўскаму, Паўлу Беланосу**

з нагоды Дня святара і свят Уваскрасення Пана перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай добры Бог адорвае Вас здароўем, радасцю, цярплівасцю і апраменьвае святлом кожны дзень жыцця. Няхай Пан Езус будзе Вашым Сябрам, а Маці Божая кожнага прытуляе да свайго сэрца. Аддзяч, Божа, Ксяндзу Пробашчу і Ксяндзу Паўлу за супольныя малітвы і абвяшчэнне Божага слова, за клопат пра нашых дзяцей і святыню.

*Ружанцовыя колы, члены Апостальства дапамогі чысцовым душам і ўдзячныя парафіяне з Радуні*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Паўлу Паўлюкевічу**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят складаем сардэчныя пажаданні: стойкасці і цярплівасці ў святарскай паслузе, задавальнення ад выконваемых абавязкаў. Няхай уваскрослы Езус умацняе Вашу веру, напаўняе сэрца любоўю і становіцца крыніцай супакою і памяркоўнасці. Моцнага здароўя, дароў Святога Духа, штодзённай апекі Маці Божай і людской добразычлівасці.

*Вернікі з касцёла св. Пятра і Паўла ў Граўжышках*

**Паважаным Ксяндзам Яну Гавэцкаму, Алегу Яновічу, Віталію Цыбульскаму, Сёстрам Ірэне, Марыі і Зоф'і**

з нагоды Вялікага чацвярга і свят Уваскрасення Пана ад усяго сэрца жадаем нязгаснага запалу ў паслузе на Божай ніве і шчодрага плёну з працы. Няхай на жыццёвым шляху сустракаюцца толькі зычлівыя людзі. Радасці, супакою, Божых ласкаў, рэалізацыі ўсіх планаў і намераў. Радасных свят!

*"Легіён Марыі" з парафіі ў Іўі*

**Паважаным Ксяндзам Антонію Абухоўскаму, Прэлату Вітольду Лазавіцкаму, Юзафу Ганьчыцу, Юрыю Павайбу, Юрыю Марціновічу, Юрыю Свіслоцкаму, Аляксандру Севасцьяновічу, Валерыю Быкоўскаму, Айцам Казіміру Енджэйчаку і Антонію Пажэцкаму**

з нагоды Дня святара і свят Уваскрасення Пана жадаем цеплыні ад людской любові, надзеі на лепшае, а таксама душэўнага супакою. Няхай кожны дзень будзе напоўнены Божай радасцю, а ласка ўваскрослага Езуса чувае над Вамі кожны дзень.

*Францішканскі ордэн свецкіх, апостальства "Маргарытка" і Колы Жывога Ружанца з парафіі Тэалін*

**Паважанаму Ксяндзу Генрыху Яблоньскаму**

з нагоды Дня святара і свят Уваскрасення Пана перасылаем сардэчныя пажаданні: усіх Божых ласкаў, моцы і цярплівасці ў выкананні душпастырскіх абавязкаў, добрага здароўя і зычлівых людзей побач. Няхай міласэрны Бог штодзённа Вас благаслаўляе, Панна Марыя ахінае плашчом мацярынскай любові і апекі, а Святы Дух шчодра адорвае сваімі ласкамі. Радаснага Вялікадня!

*Парафіяне з в. Зарыца*

**Паважаным Ксяндзу Пробашчу Валерыю Быкоўскаму і Айцу Андрэю Ядкоўскаму**

з нагоды Дня святара і свят Уваскрасення Пана перасылаем букет найлепшых пажаданняў: мноства Божых ласкаў, добрага здароўя на доўгія гады, душэўнага супакою, сталай апекі Найсвяцейшай Маці, поспехаў у душпастырскай працы і зычлівасці да людзей. Няхай Бог, якому Вы даверыліся, дапаможа пераадолець усе цяжкасці, а Божае слова, якое засейваеце ў нашых сэрцах, прынясе сторазовы плён. Дзякуем за чулыя сэрцы, прыгожы прыклад веры і мудрасці, а таксама адданую душпастырскую працу.

*З павагай, вернікі і Ружанцовае кола св. Яна Непамуцкага са Станевічаў*

**Паважанаму Айцу Антонію Пажэцкаму**

з нагоды Дня святара і свят Уваскрасення Пана складаю шчырыя віншаванні: моцнага здароўя, шчасця, радасці. Няхай жыццё будзе напоўнена яркімі фарбамі і ўсмешкамі людзей, якія знаходзяцца побач, а кожны дзень праждываецца з задавальненнем. Жадаю здзяйснення ўсіх мар, добрых пачынанняў. Дзякую за адкрытае, шчырае і доброе сэрца, гатоўнасць прыйсці на дапамогу ў кожны момант. Няхай уваскрослы Хрыстос адорвае Вас усімі ласкамі, а Маці Божая ахінае сваёй любоўю і апекай.

*З падзякай, парафіянка з касцёла св. Францішка Ксаверыя ў Гродне*

**Паважанаму Ксяндзу Каноніку Генрыху Яблоньскаму**

з нагоды Юбілею перасылаем сардэчныя пажаданні: узмацнення ў веры, нястомнай надзеі на лепшае, шчырых і адкрытых на любоў да бліжняга парафіян, моцнага здароўя, а таксама сіл у нялёгкай душпастырскай працы. Няхай Бог адорвае Вас сваімі дабротамі, а Найсвяцейшая Панна абараняе ад злога. Дзякуем за адданае служэнне ў нашай парафіяльнай супольнасці.

*Удзячныя вернікі і апостальства "Маргарытка" з парафіі Найсвяцейшай Тройцы, Забалаць*

**Паважанаму Айцу Андрэю Шчупалу**

з нагоды Дня святара і свят Уваскрасення Пана перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай Божая любоў і міласэрнасць сыходзіць на Вас кожны дзень, Найсвяцейшая Маці трымае пад сваёй апекай, а наш уваскрослы Збаўца нястомна адорвае сваімі ласкамі і падтрымлівае на нялёгкім душпастырскім шляху. Шчасці Божа!

*Добразычлівыя парафіяне з Новай Руды*

**Паважанаму Ксяндзу Тадэвушу Крыштопіку**

з нагоды Юбілею, Дня святара і свят Уваскрасення Пана жадаем Божага благаслаўлення, добразычлівых людзей побач, гатовых заўсёды прыйсці на дапамогу, шчодрых дароў Святога Духа, моцнага здароўя, душэўнага супакою і здзяйснення ўсіх высакародных мар. Няхай уваскрослы Хрыстос адорыць Вас сваёй ласкай і супакоем.

*З павагай, Санько Марыя, Анастасія і Надзея са Шчучына, а таксама парафіяне з Квасоўкі*

працяг на с. 8

# Ад шчырага сэрца

**Паважаным Ксяндзу Пробашчу Яну Рэйшалю, Сястры Ганне і арганістцы Ганне**

з нагоды свят Уваскрасення Пана перасылаем самыя сардэчныя пажаданні. Няхай уваскрослы Езус бласлаўляе кожны дзень жыцця, дадае моцнага здароўя, сіл, стойкасці і душэўнага супакою, а Маці Божая ахінае сваёй любоўю і апекай, будзе заступніцай і надзеяй. Дзякуем за нястомную і ахвярную службу Богу і людзям, за малітвы, пранікнёныя і прыгожыя казанні. Ад шчырага сэрца жадаем як мага больш радасных хвілін у жыцці, добрага настрою і людской добразычлівасці. Няхай на твары зіхаціць добрая і светлая ўсмешка, а ў душы пануе супакой.

*З павагай і ўдзячнасцю, вернікі з капліцы Ліпічна*

**Паважанаму Ксяндзу Пятру Кубелю**

з нагоды Велікодных свят ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя, доўгіх і шчаслівых гадоў жыцця, усіх Божых ласкаў, добрых і зычлівых парафіян. Няхай уваскрослы Езус бласлаўляе Вас, Найсвяцейшая Панна Марыя заўсёды апякуецца, а Дух Святы асвячае святарскі шлях.

*З малітвай, Касцёльны камітэт і парафіяне з Больцішкаў*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Віктару Захарэўскаму**

з нагоды Дня святара і свят Уваскрасення Пана ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця. Вы дапамагаеце людзям узрастаць і сталець духоўна. Няхай святло Хрыста асвятляе Ваш шлях, а Божая любоў і апека Панны Марыі дадаюць сіл і цярплівасці. Шчыра дзякуем за малітву, цудоўны спеў і працу ў нашай парафіі, а Богу – за тое, што паслаў нам Вас. Доўгага і радаснага жыццёвага шляху. Хрыстос Уваскрос!

*Прафіяне з Раготна*

**Паважаным Сёстрам Гарэцці Мількевіч, Эўхарыі Хульбуй, Юліце Пятровай, Паўле Радзівілка**

з нагоды свят Уваскрасення Пана жадаем, каб вера, надзея і любоў ніколі не згасалі ў сэрцы, а кожная хвіліна жыцця была напоўнена радасцю і ўсмешкай. Няхай Пан Бог бласлаўляе Вас, а Маці Божая ахінае сваім плашчом. Хрыстос Уваскрос! Алелюя!

*Францішканскі ордэн свецкіх, Колы Жывога Ружанца з парафіі Тэалін*

**Паважанаму Ксяндзу Юрыю Канапельку**

з нагоды Дня нараджэння і Велікодных свят жадаем здароўя, шчасця, добрых і зычлівых людзей побач, а таксама поспехаў у душпастырскай працы. Няхай Пан Езус прытуляе Вас да свайго сэрца і абараняе ад хвароб і няшчасцяў, Маці Божая нястомна чувае над Вамі, а Святы Дух адорвае сваімі ласкамі.

*Удзячныя вернікі з капліц Вердамічы і Бортнікі*

**Паважаны Ксёндз Павел Барысевіч!**

Сардэчна віншуем Вас з Днём нараджэння. Жадаем здароўя, радасці, нязгаснага аптымізму, духоўных і фізічных сіл для душпастырскай паслугі. Вы заўсёды падаеце прыклад глыбокай малітвы, мудрага слова і духоўнай моцы. Няхай усемагутны Бог нястомна адорвае Вас сваімі ласкамі і бласлаўленнем, а Найсвяцейшая Маці Божая ахінае сваёй апекай.

*З малітвай і ўдзячнасцю, Кола Жывога Ружанца і парафіяне з Нававельні*

**Паважанаму Ксяндзу Яцэку Маркелю**

з нагоды Велікодных свят перасылаем букет найлепшых віншаванняў. Жадаем шчодрых Божых ласкаў, здароўя, сіл, бласлаўлення ад Збаўцы свету, апекі Найсвяцейшай Маці, радасці і цудоўнага плёну на ніве, на якую Вы былі пасланыя. Хрыстос Уваскрос! Алелюя!

*Былыя парафіяне з Зэльвы сем'і Трубей і Раманчук*

**Паважаным Ксяндзу Аляксандру Баклажцу, Сёстрам Дароце і Марыне**

з нагоды Велікодных свят жадаем цеплыні ад людзей, надзеі на лепшае заўтра, а таксама душэўнага супакою. Няхай кожны дзень будзе напоўнены радасцю, а ласка ўваскрослага Езуса чувае над Вамі. Мы ўдзячныя Усемагутнаму за тое, што Вы з намі, за Вашу шчырую малітву і прыгожыя казанні. Жадаем Божага бласлаўлення і радасных свят Уваскрасення Пана.

*Сям'я Саўко з Вейшычаў*

**Паважанаму Ксяндзу Андрэю Пышынскаму**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят ад усяго сэрца жадаем шчодрых ласкаў і бласлаўлення ад уваскрослага Хрыста, моцы Духа Святога, апекі Найсвяцейшай Маці, а таксама прыгожага плёну на ніве Пана. Няхай Усемагутны дапамагае ў ажыццяўленні планаў, а Марыя няспынна моліцца за Вас перад Божым тронам, ахінае апекай і прытуляе да свайго сэрца. Няхай святло Хрыста будзе надзейным праваднікам на дарозе жыцця. Дзякуем за чуласць, шчырасць, спагадлівасць, сардэчнасць, адкрытасць, падтрымку і за тое, што заўсёды моліцеся за нас. Няхай Езус Хрыстус адорвае Вашых бацькоў патрэбнымі ласкамі і моцай сваёй любові на доўгія гады.

*Удзячныя вернікі з Рандзілаўшчыны*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Ігару Анісімаву**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят жадаем усіх Божых ласкаў, апекі Найсвяцейшай Маці, дароў Святога Духа, моцнага здароўя, поспехаў у душпастырскай працы. Дзякуем за абвяшчэнне Божага слова, малітву і добрае сэрца.

*Парафіяне з касцёла Беззаганнага Зачацця НПМ у Слоніме*

**Паважанаму Ксяндзу Віталію Цыбульскаму**

з нагоды свят Уваскрасення Пана перасылаем шчырыя пажаданні: моцнага здароўя на доўгія гады, душэўнага супакою, сіл, мужнасці ў нялёгкім святарскім служэнні, Божага бласлаўлення. Няхай прыклад Вашай веры і дабрыні будзе добрым узорам для Вашых парафіян. Дзякуем за шчырае і добрае сэрца, мудрыя словы і павучанні. Молімся, каб Бог і Найсвяцейшая Маці дапамагалі Вам. Віншуем са святамі таксама Вашых бацькоў і родных. Жадаем усім здароўя і Божага бласлаўлення. Нізкі паклон бацькам за добрага і шчырага сына святара.

*З малітвай, парафіяне з касцёла свсв. апап. Пятра і Паўла ў Іўі*

**Паважанаму Ксяндзу Дзмітрыю Сядлецкаму**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя, радасці, добрых і зычлівых людзей на святарскім шляху. Няхай агонь Святога Духа, які гарыць у Вашым сэрцы, ніколі не згасае, Найсвяцейшая Маці апякуецца Вамі і асцярагае кожны дзень, людзі няхай шануюць, а Бог бласлаўляе. Радасных свят!

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Усялюба*

**Паважанаму Ксяндзу Дзмітрыю Сядлецкаму**

з нагоды Імянін жадаем шмат здароўя, Божага бласлаўлення, апекі Найсвяцейшай Панны Марыі. Няхай Бог, якому Вы даверыліся, апраменьвае сваім святлом кожны дзень Вашага жыцця і дапамагае перажываць усе цяжкасці.

*Парафіяне з вёсак Навіянка і Пашэлі*

**Паважанаму Ксяндзу Міхалу Ластоўскаму**

з нагоды Дня святара і свят Уваскрасення Пана перасылаем букет найлепшых пажаданняў: моцнага здароўя, сіл на кожны дзень святарскай паслугі. Няхай святло Хрыста асвятляе жыццёвы шлях, а Божая міласэрнасць і апека Панны Марыі дадае сіл і цярплівасці. Дзякуем за добрае і чулае сэрца, клопат пра кожнага з нас і пра касцёл, за ратаванне нашых душ, а Пану Богу – за тое, што паслаў Вас нам. Радаснага Алелюя!

*Парафіяне з Капцёўкі*

**Паважаным Ксяндзам Пробашчу Мар'яну Хаменю і Пятру Вішнеўскаму**

з нагоды Дня святара, свят Уваскрасення Пана і Нядзелі Божай Міласэрнасці складаем сардэчныя пажаданні. Няхай Божая міласэрнасць штодзённа на Вас зыходзіць, Маці Божая трымае ў сваёй апецы, уваскрослы Збаўца адорвае сваімі ласкамі, а Дух Святы вядзе па Божых дарогах. Здароўя, шчасця і радасці!

*Парафіяне з Шылавічаў*

**Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Мацкевічу**

з нагоды Дня святара і свят Уваскрасення Пана перасылаем шчырыя пажаданні. Няхай Хрыстос дапамагае ў штодзённай працы, будзе Вашай сілай і моцай у здзяйсненні ўсіх намераў. Няхай жыццё праходзіць у супакоі, Бог адорвае здароўем на доўгія гады, а прыклад Вашай веры будзе добрым узорам для пераймання. Дзякуем за адданую паслугу падчас велікапосных рэкалекцый. Радасных свят!

*Парафіяне з Шылавічаў*

**Паважанаму Ксяндзу Юрыю Барташэвічу**

з нагоды Дня святара, свят Уваскрасення Пана і Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, душэўнага супакою, шмат радасці, яснай раніцы Уваскрасення. Няхай Хрыстос бласлаўляе, а Панна Марыя заўсёды мае ў сваёй апецы. Шчасця, цеплыні, поспехаў у рэалізацыі ўсіх планаў. Радасных свят!

*Парафіяне з касцёла Адшукання Святога Крыжа ў Жырмунах*

**Паважанаму Ксяндзу Зянону Рамейку**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят жадаем здароўя, поспехаў у душпастырскай працы, апекі Маці Божай і людской зычлівасці. Няхай Ваша жыццё будзе шчаслівым і бласлаўлёным, а Бог адорвае сваімі ласкамі. Дзякуем за бязмежную дабрыню, шчырыя малітвы, мудрыя парады, святло, якое Вы нясеце не толькі вернікам, але і ўсім патрабуючым.

*Парафіяне і члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Астрыны*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Валерыю Быкоўскаму і ўсім Святарам дэканата Вялікая Бераставіца**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят складаем сардэчныя пажаданні. Няхай уваскрослы Езус – Збаўца свету – адорвае Вас сваімі ласкамі, радасцю і супакоем. Радасных свят! Алелюя!

*Францішканскі ордэн свецкіх з Вялікіх Эйсмантаў*

**Паважаным Ксяндзам Казіміру Мураву, Алегу Жураўскаму, Клерыку Артуру Ляшнеўскаму**

з нагоды Дня святара і свят Уваскрасення Пана перасылаем сардэчныя пажаданні: мноства Божых ласкаў, радасці ад служэння, святла Святога Духа і апекі Найсвяцейшай Панны Марыі. Няхай Ваша жыццё будзе напоўнена любоўю, а Боскі Збаўца вядзе па прыгожым шляху паклікання. Жадаем моцнага здароўя, доўгіх годоў жыцця, радасці ад плёну душпастырскай паслугі, добразычлівых людзей побач. Хрыстос Уваскрос! Алелюя!

*З удзячнасцю, былыя парафіяне*

**Паважаным Ксяндзам Пробашчу Аляксандру Раманоўскаму, Прэлату Юзафу Трубовічу, Антонію Адамовічу, Андрэю Зайко**

з нагоды Велікодных свят перасылаем самыя сардэчныя пажаданні. Просім у малітвах, каб уваскрослы і міласэрны Езус узнагародзіў Вас моцай Святога Духа, нязгасным запалам у шчырай і адданай службе Богу і людзям, моцным здароўем, шчасцем і поспехамі на кожны дзень. Няхай Маці Божая ніколі Вас не пакідае, а паслуга прыносіць шчодры плён на Божай ніве і будзе дапамогай для парафіян у дарозе да святасці. Надалей будзьце прыкладам моцнай веры і набожнасці!

*Вернікі з парафіі Беззаганнага Зачацця НПМ, Гродна-Паўднёвы*

**Паважанаму Ксяндзу Алегу Пятрашку**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, Божага бласлаўлення і зычлівых людзей побач. Няхай Святы Дух асвячае Ваш шлях, а Маці Божая дадае сіл і цярплівасці. Няхай кожны дзень паслугі Богу і людзям прыносіць радасць і задавальненне. Хрыстос Уваскрос! Алелюя!

*Вернікі з парафіі Лядск, в. Еўлашы*

**Паважанаму Ксяндзу Андрэю Роўбу**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят складаем букет сардэчных пажаданняў. Няхай міласэрны Бог адорыць Вас моцным здароўем, радасцю, людской зычлівасцю. Усіх патрэбных ласкаў ад Святога Духа на кожны дзень, апекі Маці Божай і святога Заступніка. Шчасці Божа!

*Касцёльны камітэт з парафіі Вавёрка*

**Паважаным Ксяндзам Пробашчу Чэславу Паўлюкевічу, Дзмітрыю Папенюку, Андрэю Радзевічу, Віктару Мыслюку, а таксама ўсім Рэкалекцыяністам, якія працавалі ў нашай парафіі,**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят жадаем нястомнага аднаўлення праз Духа Святога. Молім аб тым, каб кожны з Вас знаходзіў у сваім сэрцы і стала пацвярджаў жыццём аўтэнтычнае значэнне паклікання, каб Вы трывалі ў падзяцы за яго як за ласку нічым не заслужаную, каб умацняліся ў вернасці Богу, бо чым больш бескарыслівым з'яўляецца дар, тым больш ён абавязвае. Няхай будуць з Вамі мудрасць і розум, умеласць і рада, мужнасць, набожнасць і боязь Божая. А Марыя – Маці Святароў – няхай заўсёды Вас абараняе.

*З хрысціянскім прывітаннем, парафіяне з Росі*

**Паважаны Ксёндз Віктар Ханько!**

З нагоды Вялікага Чацвярга – свята святароў – жадаем, каб Вы распалілі ў сабе нанова Божую харызму, каб былі верным свайму пакліканню. Дзякуем за тое, што адкрываеце перад намі дар Эўхарыстыі як крыніцу сіл, моцы і святла ў нашым штодзённым жыцці. Дзякуем за кожны дзень, калі праз Вашы рукі здзяйсняецца бяскроўная Ахвяра адкуплення, за сакраманты, якія нам удзяляеце, за тое, што корміце нас Божым Целам і словам. Няхай трыванне побач з Хрыстом будзе ўзнагароджана радасцю Уваскрасення.

*З хрысціянскім прывітанням, сябры*

**Паважанаму Ксяндзу Раману Ялоўчыку**

з нагоды Вялікага чацвярга хочам скласці сардэчныя пажаданні: Божай радасці, каб спадарожнічала ў кожны дзень святарскай паслугі, мноства зычлівых людскіх сэрцаў, гатовых прыйсці на дапамогу ў абвяшчэнні Добрай Навіны. Будзьце верным святарству да канца! Няхай Вам хопіць энтузіязму і сіл. Езус няхай будзе крыніцай бясконцых дароў, а Маці Святароў абараняе, засланяе і чувае над Вамі, ахінае любоўю і мацярынскай апекай.

*Парафіяне з касцёла св. Міхала Арханёла ў Гнезне*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Яну Кучынскаму**

з нагоды свят Уваскрасення Пана складаем сардэчныя пажаданні: доўгіх гадоў жыцця ў добрым здароўі, душэўнага супакою, дароў Святога Духа і ўсіх Божых ласкаў. Дзякуем за прыгожыя казанні і клопат пра нас, а маме – за такога добрага сына святара.

*Удзячныя парафіянкі з гродзенскай катэдры*

**Паважаным Ксяндзам Каноніку Яну Кучынскаму, Паўлу Скубу, Паўлу Безляповічу, Аляксандру Сямінскаму, Клерыку Валерыю Каралю**

з нагоды Дня святара і свят Уваскрасення Пана складаем букет найлепшых пажаданняў. Няхай уваскрослы Хрыстос адорвае Вас усімі сваімі ласкамі, напаўняючы жыццё святлом і дабрынёй, распальваючы сэрцы любоўю і ўзмацняючы сілы для далейшай плённай працы на карысць Богу і людзям. Найсвяцейшая Маці няхай надалей будзе Вашай галоўнай Заступніцай, а Святы Дух шчодра ўзнагароджвае сваімі каштоўнымі дарамі. Хрыстос Уваскрос! Алелюя!

*Моладзь з гродзенскай катэдры*

**Паважаны Ксёндз Юрый Фядук!**

Прыміце словы падзякі за клопат аб сваіх парафіянах, за цудоўныя рэкалекцыі, якія адбыліся ў нашай парафіі. Шчыра ўдзячныя за трапныя словы да кожнага з нас, якія прамаўляў місіянер Айцец Валерый. Паважаныя Святары, дзякуем Богу за Вас і за гэты асаблівы дар, які Вы атрымалі і якім не стамляецеся шчодра дзяліцца з іншымі, якім узбагачаеце і асвячаеце нас, дазваляючы адчуць Божую любоў. З нагоды Дня святара і свят Вялікадня перасылаем Вам сардэчныя віншаванні. Жадаем, каб Пан Бог удзяліў бласлаўленне ў нястомным служэнні, Марыя – Маці Святароў – заўсёды моцна трымала Вас за руку ва ўсіх выпрабаваннях і дапамагала ісці за Сынам. Здароўя, душэўнага супакою, натхнення, штодзённай радасці і добразычлівых людзей побач.

*Удзячныя парафіяне з касцёла свсв. апап. Пятра і Паўла ў Ражанцы*

**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** Галоўны рэдактар **кс. Юрый Марціновіч;** Заснавальнік: **Гродзенская рыма-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання **1997**; рэгістр. **№1085**; Выдавец: **курыя Гродзенскай дыяцэзіі**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** Юрый Лавыш, Ангеліна Пакачайла; тэл: **(8 0152) 75-64-38**; e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com**; **http://www.slowo.grodnensis.by.**
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»,** ЛП 02330/39 от 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 1534; тыраж 4970; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты; Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная